


# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 40 (353) 17 — 23 кастрычніка 1998 г. КОШТ 3500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

21 кастрычніка ў Палацы мастацтва адкрыецца выстава да 60-годдзя Беларускага Саюза мастакоў

# СВЯТАР ЗАГІНУЎ. ЗА ШТО?

ЗА ШТО? ЗА ШТО? ЗА ШТО?

***На гэтай паласе павінен быў стаяць зусім іншы матэрыял. Але жыццё ўнесла свае трагічныя карэктывы...***

13 кастрычніка, напярэдадні вялікага праваслаўнага свята Пакроваў Божай Маці і Дня Маці, які шырока адзначаўся ў краіне, было знойдзена цела забітага настаяцеля Брэсцкай Свята-Мікалаеўскай царквы, мітрафорнага протаірэя і сакратара Брэсцкай епархіі айца Міхаіла Сацюка... Яму было 45 гадоў... Як паведаміла БелТА са спасылкай на прэс-службу УУС Брэсцкага аблвыканкама, айцец Міхаіл быў знойдзены ў сваім аўтамабілі "Фольксваген-Вента" за 180 метраў ад трасы Брэст — Мінск. Папярэднім вечарам, а 19-й гадзіне, ён выехаў у бок вёскі Вычулкі, дзе жыў з жонкай і двума дзеткамі. "Аператыўнікі, што прыбылі на месца здарэння, налічылі ў нябожчыка дванаццаць колата-рэзаных ран на грудзях і галаве. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 100 КК РБ..."

Мы затэлефанавалі ў Брэсцкае епархіяльнае ўпраўленне. Адказаў настаяцель кафедральнага сабора айцец Іаан. Ён паведаміў, што створана сумесная аператыўная група УКДБ, УУС і абласной пракуратуры, у склад якой уваходзяць лепшыя спецыялісты сістэмы вышуку. Што прапрацоўваецца адна з версій — забойства з мэтай абрабавання. Справа ў тым, што неўзабаве пасля забойства былі выкарыстаны ключы ад сейфа, які знаходзіўся ў рабочым кабінеце айца Міхаіла. На наша пытанне, якое ж багацце з сейфа магло прывабіць забойцаў або забойцу? — пачулі такое меркаванне айца Іаана. Пры свята-Мікалаеўскай царкве, растлумачыў ён, айцец Міхаіл будаваў нядзельную школку, і, магчыма, злодзеі шукалі там грошы...

Па афіцыйных звестках БелТА, была ўзламана адна частка сейфа, адкуль былі забраны "залатыя крыжыкі і іншыя рэчы царкоўнага ўжытку".

Пры ўсім тым, што здабыча ў выглядзе залатых крыжыкаў, умоўна кажучы, была распіхана па кішэнях забойцаў, — "крыжа на іх няма"! Цяжка асэнсаваць, якія здзекі вытрымаў у свае апошнія імгненні жыцця айцец Міхаіл: восем удараў у сэрца колючым прадметам... Некалькі — у шыю і галаву...

... Мы выказалі спачуванне настаяцелю кафедральнага сабора айцу Іаану. У дзень на Пакровы Божай Маці і ў Дзень Маці... Той Маці, што дала жыццё, і той, што прыняла Душу...

Дасюль не забыта гісторыя з забойствам айца Аляксандра Меня ў Расіі. Дасюль не знойдзены той, хто пазбавіў яго жыцця... І вось цяпер святар з Беларусі, які, магчыма, так і не даведаўся: за што?

Л.К.

Калаж Наталлі ОВАД

# КУЛЬТУРА

## “ВУЧЭННЕ БЕЗ АСЭНСАВАННЯ — МАРНАВАННЕ ЧАСУ”

***20—21 кастрычніка ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка адбудзецца Міжнародны кангрэс “Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя”. Гэты кангрэс збярэ вядучых навукоўцаў з сямі краін: Беларусі, Расіі, Украіны, ЗША, Польшчы, Германіі, Італіі. У яго падрыхтоўцы актыўны ўдзел прыняў Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны. І канешне ж, галоўная скрыпка — факультэт беларускай філалогіі і культуры педуніверсітэта. Карэспандэнт Таццяна Команава сустрэлася з адным з арганізатараў кангрэса, загадчыкам кафедры гісторыі і тэорыі культуры, прафесарам Аляксеем Уладзіміравічам РАГУЛЕМ.***

***— Якая агульная ідэя кангрэса, яго канцэпцыя?***

**— Мяжа паміж тысячагоддзямі — гэта як-ніяк мяжа ў лёсе многіх народаў Еўропы, і перш за ўсё — беларускага народа. Мы прывыклі да таго, што культура наша развіваецца сама па сабе. Сапраўды, так некалі і было, але гэты перыяд закончыўся. Сёння патрэбна разумная, інстытуцыйная арганізацыя ў развіцці культуры. І такая патрэба асабліва востра адчуваецца, бо чалавецтва знаходзіцца ў стане культурнага крызісу, які адчувальны і ў нас, на Беларусі. У прыватнасці, сёння вельмі востра стаіць пытанне рацыянальнага ладу жыцця. Многія філосафы сцвярджаюць, што менавіта гэты рацыяналізм і з’яўляецца прычынай усіх няшчасцяў чалавецтва ў XX стагоддзі, бо жыццё пабудавана паводле тых рацыянальных рэцэптаў і ўстановак, якія былі выпрацаваны ў эпоху Асветніцтва, у прыватнасці, у XVIII—XIX стагоддзях. Нібыта і так. Але ёсць розны рацыяналізм.**

**Такім чынам, беларуская культура, а побач з ёю і такія, як украінская, польская, ставілі пытанне: што ёсць праўда? Што ёсць натуральнасць? Якая будучыня? Думаецца, што ў пластах беларускай культуры адказ на гэтае пытанне дадзены.**

***— Што за мінулае тысячагоддзе беларускае Асветніцтва прыўнесла ў сусветную культуру?***

**— Гэта пытанне дарэчы, бо нам зараз і патрэбна вымяраць свае здабыткі агульначалавечымі крытэрыямі. Ёсць перашкода, у навуцы яна называецца этнацэнтрызмам — засяроджанасць толькі на сваім уласным этнасе, якая зніжае магчымасць убачыць вартасці сваёй культуры. І вось тут патрэбны агульначалавечыя крытэрыі.**

**Праблема неарацыяналізму менавіта ў беларускай культуры вырашаецца як праблема этызацыі культурнага працэсу, праблема ацэнкі чалавечай дзейнасці з пункта гледжання этыкі. Дарэчы, да гэтай ідэі прыйшла і еўрапейская культуралогія, ужо на мяжы 20—30-х гадоў. Тады, калі ў нас ужо былі напісаны такія шэдэўры, як “Новая зямля” Я.Коласа, філасофскія п’есы Я.Купалы і М.Гарэцкага.**

***— Якая асноўная канцэпцыя працы па секцыях?***

**— Пакуль што тут можна гаварыць у самых агульных рысах, бо, як складзецца дыялог, яшчэ невядома. Тым не менш, пытанні ёсць. Калі браць секцыю “Філасофія, культуралогія, рэлігіязнаўства”, то ў яе рабоце ўдзельнічаюць найбольш значныя нашы вучоныя, такія, як Мікола Крукоўскі, Уладзімір Конан і іншыя. Уся работа гэтай канферэнцыі мае мэтай знайсці сінтэз, зрабіць абагульненні, каб выйсці на вядучыя канцэпты. Адны з іх ужо акрэслены, другія спрадвеку склаліся ў самой традыцыйнай народнай культуры, а трэція трэба яшчэ абазначыць, даць ім намінацыю.**

***— Як на кангрэсе будзе суадносіцца Асветніцтва як эпоха і асветніцтва як працэс?***

**— Я думаю, што гэта павінна выліцца ў форму спалучэння навукова-тэарэтычнага патэнцыялу з практычнымі задачамі. Такі кангрэс павінен мець і навукова-практычны характар. Словам, патрэбна асэнсаванне, бо яшчэ Канфуцый гаварыў: “Вучэнне без асэнсавання — гэта марнаванне часу”.**

**Гэта ці не першая спроба такога кангрэса. Таму спадзявацца, што будуць выпрацаваны адразу вельмі выразныя пазіцыі, рана.**

**Кангрэс ужо карысны і тым, што адбудзецца абмен думкамі. Прычым, матэрыялы, дасланыя на кангрэс, гавораць, што пры ўсёй іх разнастайнасці ў іх акрэсліваецца галоўная праблема — праблема суб’екта. Іншая рэч — як хто да гэтага падыходзіць.**

**І яшчэ адна вельмі істотная праблема — роля слова карэннай нацыі ў фармаванні агульнай сістэмы каштоўнасцей. Гэта абсалют, які абавязкова трэба ўзвесці. Калі этнас хоча жыць і дзейнічаць як этнас культурны, ён павінен добра ўсведамляць, на якім этапе што для яго з’яўляецца прыярытэтам. А калі гэтых абсалютаў ён не дасягне, тады этнас рызыкуе застацца па-за культурным працэсам. Тады ён можа перастаць быць суб’ектам гісторыі.**



## “ГУЛЬНІ,




***Імя Уладзіміра Іванова добра вядома не толькі ў айчынных медыцынскіх колах, але і за мяжой. Некаторы час ён займаў пасаду галоўнага псіхіятра і галоўнага нарколага Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Зараз з’яўляецца кіраўніком праграмы Цэнтра даверу “Надзея і вылячэнне” і працуе псіхіятрам у гарадской паліклініцы Мінскага трактарнага завода “Медсервіс”. Сёння У.ІВАНОЎ — госць нашай рэдакцыі.***

**— Уладзімір Уладзіміравіч, існуе агульнае меркаванне, што апошнім часам з прычыны розных сацыяльных катаклізмаў, іншых фактараў, якія разбуральна дзейнічаюць на мозг чалавека, стан псіхічнага здароўя людзей рэзка пагоршыўся.**

— Я лічу падобнае меркаванне памылковым. Увогуле, гэтае пытанне даволі трывала апавіта нейкімі міфалагічнымі высновамі, якія нібыта відавочныя, але на самой справе не што іншае як прыгожыя домыслы. Прынята лічыць, што быццам бы паскарэнне тэмпаў жыцця, якое адбываецца ў XX стагоддзі, асабліва ў наш час, вядзе да росту псіхічных расстройстваў і захворванняў. Але калі мы возьмем працы псіхіятраў канца XIX — пачатку XX стагоддзя, напрыклад, вядомага Кюлье, то знойдзем там літаральна такія радкі: “... Скончылася ціхае і спакойнае XIX стагоддзе. Раней мы ездзілі на дыліжансах, у нас былі ціхія і спакойныя гарады. Зараз хуткасць павялічылася... Узнікаюць фінансавыя крызісы, войны. І таму ў людзей рэзка пагаршаецца стан псіхічнага здароўя...”

Што тычацца катаклізмаў. Успомнім сярэднявечную інквізіцыю, падчас якой былі знішчаны дзесяткі тысяч нявінных людзей, жудасныя масавыя эпідэміі чумы, калі літаральна за некалькі дзесяцігоддзяў вымірала да чвэрці насельніцтва ўсёй Еўропы, хранічны голад, які праследаваў Еўропу амаль да сярэдзіны нашага стагоддзя. Напрыклад, у Германіі пасля першай сусветнай вайны — гэта пацверджана дакументальна — нараджаліся дзеці без валасоў і пазногцяў, без скуры. Прычыну гэтага ўрачы перш за ўсё бачылі ў тым цяжкім стрэсавым стане, у якім знаходзіліся цяжарныя жанчыны, а потым ужо — у недахопе нармальнага харчавання і вітамінаў. Можна ўспомніць выдатнага шведскага пісьменніка Кнута Гамсуна і яго раман “Голад”, у якім апісваецца Швецыя пачатку нашага стагоддзя, жудаснае жыццё ніжэйшага і сярэдняга слаёў насельніцтва, інтэлігенцыі. Альбо творы Джэка Лондана, у якіх ён апісвае лонданскае дно. Ці ўзгадаем страшэнны эканамічны крызіс у ЗША ў 20 — 30-я гады...

Возьмем недалёкае мінулае нашай Беларусі. Першая сусветная вайна. Рэвалюцыя. Грамадзянская вайна. Лёгкая перадышка НЭПа. Потым — голад, які прыйшоў з Украіны, настолькі моцны, што там людзі елі людзей. Калектывізацыя — звышмагутны стрэсавы фактар. 37—38-ыя гады — усе хадзілі пад страхам. Айчынная вайна, дзесяткі мільёнаў забітых, гаспадарка разбурана. 47-ы год — татальны пасляваенны голад. Гэта не той голад, як сёння, калі перабоі з маслам у крамах... 50-я гады — гады катаржнай працы. Мы маем адзіны вельмі кароткі ў параўнанні з усёй нашай “новай” гісторыяй перыяд пэўнага дабрабыту — з 65-га да пачатку 80-х гадоў, калі большасць насельніцтва было сацыяльна абаронена.

Я ўзгадаў гэтыя ўсім вядомыя факты, каб мы яшчэ раз азірнуліся назад і ўбачылі, што ў параўнанні з тым, праз што мы прайшлі, сённяшні дзень Беларусі — гэта травеньскі дзень на зялёным лужку. Вось толькі дожджык крыху пакрапаў — і нам непрыемна. Аналагаў такіх псіхічных расстройстваў, такой паталогіі, якая мела месца падчас згаданых гістарычных катаклізмаў, сёння мы не знойдзем. Але мы ўжо паспелі прывыкнуць да пэўнага камфорту “застойных” часоў, з зайздрасцю пазіраем на квітнеючыя ў сэнсе матэрыяльнага дабрабыту замежныя краіны. На глебе гэтага незадавальнення і спарадзіўся міф аб тым, што мы ледзь не вар’яцеем ад сённяшніх сацыяльна-псіхалагічных і эканамічных умоў нашага жыцця.

**— Тым не менш “Навінкі” і аддзяленні неўрозаў не пустуюць.**

— Псіхічныя захворванні кшталту шызафрэніі, маніякальна-дэпрэсіўнага псіхозу стабільныя ва ўсім свеце, у тым ліку і на Беларусі. На іх пакутуе прыкладна адзін працэнт насельніцтва, які і складае кантынгент адпаведных псіхіятрычных устаноў. Рост вялікай псіхічнай паталогіі ні за апошнія дзесяцігоддзі, ні зараз не адзначаецца нідзе. Канешне, знешнія ўмовы жыцця могуць садзейнічаць запавольванню альбо паскарэнню тэмпаў развіцця гэтых хваробаў. Аднак істотна на іх не ўплываюць.

Што тычыцца неўрозаў, псіхапатыі, іншых праяў пагранічнай псіхічнай паталогіі, дык нашыя айчынныя псіхіятры сцвярджаюць: у часы цяжкіх выпрабаванняў кольkасць неўрозаў памяншаецца. Справа ў тым, што хворыя на неўроз маюць (часам і неўсвядомленую) матывацыю да таго, каб людзі, якія іх абкружаюць, таксама лічылі іх хворымі і надавалі ім крыху больш увагі. Аднак калі ўвесь народ перажывае велізарныя нягоды, такім людзям проста сорамна “цягнуць коўдру на сябе”. І сама хвароба, дарэчы, сыходзіць значна хутчэй, без усялякіх лекаў. Прынамсі, так паказвае вопыт другой сусветнай вайны.

Існуе шкала стрэсаў, гэта значыць, фактараў, якія выклікаюць стрэс. З пункта гледжання амерыканскіх псіхіятраў, наймагутныя вострыя стрэсары — гэта смерць дзіцяці, суіцыд мужа (жонкі) альбо калі чалавек становіцца ахвярай прыроднай катастрофы. Гэта прыкладна раўназначныя рэчы. Да хранічных стрэсараў адносяцца ўзяцце ў заложнікі або змяшчэнне ў канцэнтрацыйны лагер. Аднак у большасці людзей, якія трапляюць у падобныя сітуацыі, з цягам часу псіхіка нармалізуецца і наступае выздараўленне.

**— Для нас адным з такіх магутных стрэсараў была аварыя на ЧАЭС, і, пэўна ж, людзі, якія жылі ў забруджаных раёнах, яшчэ не хутка ад яе акры-**

## ДАРЫЦЬ РОЗНЫЯ... МОВЫ

***Замежнымі мовамі я захапляюся з дзяцінства. Выказваць свае думкі, пачуцці, уражанні чужымі, няроднымі словамі заўсёды было для мяне найвялікшым задавальненнем і асалодай. Скончыўшы спецыялізаваную школу з паглыбленым вывучэннем французскай, я пазней, ужо самастойна, авалодала яшчэ і нямецкай, якую (далоў падманлівую сціпласць!) пасяхова выкарыстоўваю і дасюль. Здавалася б, ведаеш дзве мовы — дый і годзе!***

Але сёлета, тужліва чакаючы і так і не дачакаўшыся надыходу сапраўднага лета, у адзін з шэрых, не па-летняму халодных надвячоркаў да мяне раптоўна прыйшла думка, што някепска было б вывучыць якую-небудзь “паўднёвую” мову, якая, магчыма, паспрыяла б патрапіць на ўзбярэжжа цёплага мора, каб палашчыцца пад пяшчотнымі промнямі паўднёвага сонейка. А інакш так і давядзецца ўсё жыццё хавацца пад парасонам нават улетку. Якую ж з іх? Безумоўна — італьянскую!

Карацей, рашэнне было прынята і я, абклаўшыся шматлікімі рэкламнымі выданнямі (тым больш, што недахопу ў іх цяпер няма), пачала вывучаць аб’явы кшталту: “Запрашаем вывучаць замежныя мовы...” Патэлефанаваўшы па некаторых з нумароў, я высветліла, што задавальненне гэтае — даволі не таннае, а, хутчэй, зусім наадварот. Мільганула ўжо думка адмовіцца ад надзеі наведаць калі-небудзь П’емонт альбо Венецыю, але раптам на вочы патрапіла аб’ява: “Міжнародны навучальны цэнтр запрашае...” І далей — “кошты ў 2 — 2,5 разы меншыя за сярэднія па горадзе”. Мабыць, гэта толькі рэклама, падумала я, але ўсё ж вырашыла рызыкнуць.

Выкладчыца Ганна Васілеўна, прывабная жанчына сярэдніх гадоў, натхнёна распавядаючы пра “адну з самых прыгожых і старажытных з раманскіх моў”, сказала, паказваючы на невысокага росту сівога мужчыну, які сціпла стаяў побач з ёй: “А гэта наш дырэктар, Васіль Сцяпанавіч, — чалавек, які за некалькі гадоў стварыў сапраўдную імперыю навучальных курсаў...” Той павітаўся, павіншаваў прысутных з пачаткам заняткаў і выйшаў. У маёй жа галаве назойліва круцілася: “Стварыў імперыю, значыць, — імператар”. Згадзіцеся, не кожны дзень сустракаеш чалавека, які ў наш час, калі эканоміка хістаецца паміж крызісам і паралюшам, здолеў стварыць імперыю ў галіне адукацыі. Гэта ж не гандаль, не камерцыя...

Два дні я размаўляла толькі з аўтаадказчыкам Васіля Сцяпанавіча, але на трэці дзень мне пашчасціла, нарэшце, з ім убачыцца і дамовіцца аб сустрэчы.

**— Васіль Сцяпанавіч, распавядзіце, калі ласка, як узнікла ідэя стварэння Міжна-**

яюць?

— На думку некаторых "вучоных мужоў", у выніку чарнобыльскай катастрофы ў 97-і працэнтаў насельніцтва, якія пражывалі ў "зоне", радыяцыя пашкоджана мазгавая тканка, і, адпаведна, яны маюць нейкія псіхічныя расстройствы. Я з гэтым катэгарычна не згодны. Чаму? Радыяцыя не можа ўздзейнічаць на нервовую сістэму ў тых дозах, у якіх падвергласяапраменьванню абсалютная большасць насельніцтва. Гэта даказана навуковым эксперыментам. Так, на пэўных узроўнях апраменьвання татальна гіне нервовая тканка, адбываюцца пэўныя генетычныя змены. Мы ведаем, што ўзровень захворвання ракам шчытападобнай залозы рэзка павялічыўся ў "чарнобыльскіх" дзяцей. Гэта адзіны доказаны факт. Але не ўсім вядома, што, напрыклад, узровень захворвання ракам у Віцебскай вобласці быў вышэйшы за Гомельскую не толькі да аварыі на ЧАЭС, але застаецца такім і сёння.

Прырода рака нам дакладна невядомая. І што больш істотнае: радыёактыўны пыл альбо хімізацыя сельскай гаспадаркі? Невядома. Навука пакуль маўчыць. Я мяркую, што павышаны ўзровень анкалагічнай паталогіі на Віцебшчыне звязаны перш за ўсё з хімікатамі: там знаходзіцца і нафтаперапрацоўчы камбінат, і даламітавае прадпрыемства, і іншыя, даволі шкодныя прамысловыя гіганты.

Яшчэ адзін, вельмі важны момант. Ніхто не ведае рэальнага ўзроўню захворвання ў чарнобыльскіх раёнах, які існаваў да катастрофы. Гэта значыць, што мы не можам ні з чым параўнаць дадзеныя, якія атрымліваем апошнія гады. Уявіце. Населены пункт, тысяча чалавек. Якая там медыцына? Людзі хварэюць, самі і лечацца. Да ўрачоў звяртаюцца толькі ў выключных выпадках. І вось у гэты пункт пасля аварыі на ЧАЭС наведваецца медыцынская брыгада ў складзе дзесяці розных спецыялістаў, аснашчаных самымі сучаснымі прыборамі, распачынаецца абследаванне мясцовых жыхароў. Вядома, лор знаходзіць сваё, неўрапатолаг — сваё, тэрапеўт сваё, дэрматолаг сваё, псіхіятр абавязкова знойдзе сваё. А раней не было ні-чо-га. Ды таму і не было, што ніхто іх не абследаваў. Канешне, гэта рэальная паталогія, але наіўна меркаваць, што віной таму адна радыяцыя.

**— Напэўна, кожны добры псіхіятр пры жаданні можа адшукаць нават у здаровага чалавека пэўныя псіхічныя адхіленні?**

— Натуральна. Сучасныя класіфікацыйныя сістэмы ў псіхіятрыі налічваюць больш за 300 тыпаў дыягназаў. А амерыканцы ў сваіх дапаможніках апісваюць яшчэ і тыя псіхічныя станы, якія не ўвайшлі ў дыягнастычныя рубрыкі, але знаходзяцца ў полі гледжання псіхіятра. Таму пры жаданні можна кожнага з вышэйзгаданых 97-і працэнтаў чарнобыльскіх "псіхічна хворых" небеспадстаўна ўпісваць у тыя ці іншыя рамкі, няхай нават лягчэйшых расстройстваў. Што сёння і робіцца.

**— Вы думаеце, што нехта зацікаўлены ў гэтым і свядома згушчае фарбы?**

— Тут мае месца элементарны разлік. Чым больш вялікай будзе наша псіхіятрычная служба, тым большымі дадатковымі рэсурсамі яна будзе валодаць. На жаль, ёсць асобы, якім выгадна маляваць сітуацыю як катастрафічную..

**— Уладзімір Уладзіміравіч, наколькі ўкамплектаваны сёння штат нашай псіхіятрычнай службы?**

— Урачоў-псіхіятраў, якія займаюцца тэрапіяй, у нас больш, чым у любой заходняй краіне. Але адчуваецца яўны недахоп падрыхтаваных спецыялістаў іншага персаналу. У развітых заходніх краінах немалую частку ў структуры штатнага раскладу займаюць псіхолагі, сацыяльныя работнікі, высокакваліфікаваны сярэдні медперсанал. У галіне арганізацыі псіхіятрычнага сервісу мы гадоў на дваццаць адстаем ад Захаду.

**— Чым, у асноўным, адрозніваецца наш псіхіятрычны сервіс ад замежнага?**

— Адрозненняў шмат. Возьмем, напрыклад, Лондан, у якім жыве 10 мільёнаў чалавек. На ўвесь горад — тры псіхіятрычныя бальніцы, кожная з якіх налічвае не больш за 200 пацыентаў. (Дарэчы, яшчэ сто гадоў таму выдатныя рускія псіхіятры адзначалі, што адна псіхіятрычная бальніца павінна мець не больш за 200 ложкаў. Сёння гэта стандарт, якога трымаюцца ва ўсім свеце.) Канешне, ёсць і іншыя стацыянары, але яны разгрупаваны па горадзе і набліжаны да месца жыхарства хворых. Калі я спрабаваў высветліць у чыноўнікаў, колькі псіхіятрычных ложкаў у Лондане, мне ніхто не змог адказаць. Бо гэтае пытанне цалкам у кампетэнцыі мясцовых улад: колькі трэба ложкаў, столькі яны і выдзяляюць. Ім няма ніякай патрэбы ствараць звышмагутныя лячэбныя цэнтры. У нас жа рэспубліканская клінічная псіхіятрычная бальніца налічвае 2 тысячы ложкаў. Адчуваеце розніцу? Ну навошта, скажам, з Салігорска везці чалавека лячыцца ў Мінск? Ён адрываецца ад звыклага асяроддзя, у яго парываюцца сувязі са сваякамі. Варта адзначыць, што ў нас вельмі добрае медыкаментознае лячэнне. Аднак пытанне тэрапіі псіхічных хворых немагчыма вырашыць пры дапамозе адных медыкаментаў. Неабходна стварэнне рэабілітацыйнага асяроддзя, у якім яны змогуць жыць па-за межамі псіхбальніцы.

У той жа Англіі практычна закончана рэформа псіхіятрычнага сервісу. Муніцыпалітэт выдзяляе для псіхічна хворых звычайны дом на вуліцы. Яны там жывуць маленькай камунай. Да іх штодзень прыходзіць інструктар, медсястра альбо сацыяльны работнік і вучыць іх весці хатнюю гаспадарку, даглядаць сябе. З нашага пункта гледжання, вар'яцтва — гэта распад асобы. Аказваецца, не. Проста чалавеку трэба стварыць нармальныя ўмовы. Канешне, узнікаюць у такіх прытулках і розныя эксцэсы — крадзеж, бойкі, ужыванне наркотыкаў. Але яны рэгулююцца. Людзі ёсць людзі. Буйных хворых, якіх ізалююць, вельмі мала. Там сістэма адчыненых дзвярэй.

Аднак заходняе грамадства плоціць за гэту сістэму немалы кошт. Узровень звершаных суіцыдаў у іх значна вышэйшы за наш. Шмат хворых людзей маюць навязлівую ідэю пакончыць з сабой і робяць гэта, карыстаючыся дадзенай свабодай. Англічане на гэта адказваюць так: за свабоду трэба плаціць. Альбо мы ўсіх змесцім у псіхіятрычны "канцлагер", дзе яны не змогуць накласці на сябе рукі, але гэта будзе і не лячэнне, альбо яны будуць жыць у нармальным чалавечым асяроддзі, але тады частка з іх непазбежна загіне. Што лепей?

**— Усе самагубцы ў нейкай ступені псіхічна хворыя людзі?**

— Ні ў якім разе. Большасць з іх — цалкам псіхічна здаровыя. Проста яны трапляюць у нейкія цяжкія сітуацыі. Губляюць сэнс жыцця... Прычыны могуць быць самыя розныя. Аднак узровень эканамічнага развіцця і стабільнасці грамадства на гэта практычна не ўплывае. Напрыклад, самы высокі ўзровень суіцыдальных паводзінаў назіраецца ў апошнія дзесяцігоддзі ў, здавалася б, шчаслівай Швейцарыі, Швецыі, а з краін былога сацлагера — у Венгрыі, якая была лепшай у эканамічным плане.

**— А як растлумачыць павелічэнне колькасці самагубстваў на Беларусі ў апошнія гады, калі гэта таксама не міф?**

— Не, гэта не міф. І звязана гэта, на маю думку, перш за ўсё з ростам узроўню ўжывання алкаголю. Увогуле, для п'яніц і алкаголікаў характэрна павышаная рызыка самагубстваў, большасць з іх пастаянна перажывае дэпрэсіі, заганяюць самі сябе ў розныя тупікі і не бачаць выйсця. Аб гэтым красамоўна сведчаць лічбы: з 1991 года ўжыванне спіртных напояў рэзка павялічылася, адпаведна, павялічыўся і ўзровень суіцыдальных паводзін. У нас зараз — масавае п'янства. А садзейнічае яму адзіны несумненны фактар — даступнасць алкаголю насельніцтву. Будзе танны алкаголь — будзе п'янства. А значыць, будуць і адпаведныя вынікі.

**— Легіён наркаманаў у нас таксама неадольна расце, хаця набыць наркотык непараўнальна больш складана, чым бутэльку гарэлкі...**

— Як ні дзіўна, тут таксама адыгрывае першачарговую ролю даступнасць наркотыка. Яшчэ 10 гадоў таму мне было зразумела, што, калі насельніцтва атрымае на рукі валюту, колькасць наркаманаў будзе расці ў незначальнай прагрэсіі. Так і адбылося. На лаўца і звер бяжыць. Наркамафіёзі адразу рынуліся ў нашу краіну і імгненна арганізавалі вялізны рынак збыту наркотыкаў. Зараз у Мінску можна набыць чысты гераін, какаін, чаго раней не было. Спрацаваў і такі фактар, што ў апошнія гады міліцыя пачала больш актыўна выяўляць наркаманаў. Таму і налічваецца іх сёння на Беларусі ўжо "легіён". І ён папаўняцца новымі "жаўнерамі зелля". Бо ў нас пакуль няма магутнай міліцэйскай сістэмы, якая б магла кантраляваць шляхі нелегальнага распаўсюджвання наркотыкаў, бязлітасна змагацца з гэтым злом. А змагацца з самімі наркаманамі бессэнсоўна. Эфектыўнасць тэрапіі наваг у нашых добрых цэнтрах вельмі малая: 4 працэнты гадавых рэмісій. Дый марна працаваць з людзьмі, якія самі не жадаюць пазбавіцца ад сваёй шкоднай звычкі. Ёсць няшмат наркаманаў і алкаголікаў, якія гэтага сапраўды жадаюць. З імі і трэба працаваць — па сучасных тэрапеўтычных праграмах, на кантрактнай аснове. Бо існуючая сістэма, калі нібыта дапамога аказваецца ўсім, толькі разбэшчвае хворых, і нават спрыяе далейшаму ўжыванню імі гэтай дрэні. Чаму б алкаголіку не піць, а наркаману не калоцца, калі яны ў любы момант могуць прыйсці ў наркадыспансер, абсалютна бясплатна зняць інтаксікацыю, амаладзіцца, адпачыць пару тыдняў і — з новымі сіламі вярнуцца "на круги своя"?

**— Калі гэта настолькі відавочна, чаму не прымаюцца нейкія меры па рэфармаванні адпаведных службаў?**

— Гэта "гульні, у якія гуляюць людзі", як казаў вядомы псіхіятр Эрых Бёрн. Алкаголік п'е, нарколаг лечыць, жонка ходзіць у міліцыю, міліцыя б'е дубінкамі — усе пры справе. Неабходна разбурыць гэтую гульню. А гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі кожны зразумее сапраўдныя матывы сваіх учынкаў і прыме за іх адказнасць.

Але, з другога боку, аб якой адказнасці можа ісці гаворка, калі п'янства на руку не толькі вялікай колькасці асобных людзей, урачоў, але і шэрагу камерцыйных арганізацый. У прыватнасці, тым, што спецыялізуюцца на выратаванні алкаголікаў ад перапою, прыязджаючы да іх на кватэры і ставячы крапельніцы. Паслугі такой брыгады каштуюць у Мінску ад 30 долараў, а ў начны час і святочныя дні, калі і адбываецца большасць падобных алкагольных інцыдэнтаў, — кошт дасягае 100 долараў. Дарэчы, брыгады гэтыя, як правіла, укамплектаваныя не нарколагамі, а ўрачамі рэанімацыйных аддзяленняў.

Відавочны шэраг грубых дэфектаў у стратэгіі і арганізацыі айчыннага псіхіятрычнага і наркалагічнага сервісу. Гэта цалкам можна выправіць, патрэбна толькі добрая воля адпаведных кіраўнікоў. І не трэба дадатковых рэсурсаў. Дастаткова тыя, што ёсць, накіраваць у патрэбнае рэчышча. Бо псіхіятрыя і наркалогія тым і адрозніваюцца ад іншых медыцынскіх дысцыплін, што не патрабуюць ніякага дарагога тэхнічнага абсталявання. Адзіная ўмова — рацыянальная арганізацыя працы.

**Гутарыў Алесь ФІЛІПОВІЧ**

**У ГАЛІНЕ АРГАНІЗАЦЫІ ПСІХІЯТРЫЧНАГА СЕРВІСУ МЫ ГАДОЎ НА ДВАЦАЦЬ АДСТАЕМ АД ЗАХАДУ**




---

**роднага навучальнага цэнтра. Хто стаяў ля яго вытокаў?**

— Усё пачалося з невялікай дзіцячай фотастудыі, якую я арганізавала ў 1989 годзе ў доме па вуліцы Заслаўскай, дзе жыву. Хлопчыкі і дзяўчынкі займаліся вельмі ахвотна, удзельнічалі ў шматлікіх выставах, у тым ліку і рэспубліканскіх. Нават займалі ганаровыя месцы. Потым з'явіўся праект стварэння курсаў па падрыхтоўцы школьнікаў да паступлення ў ВНУ, бо многія з бацькоў былі незадаволеныя якасцю навучання ў школах. Я сабрала выкладчыкаў з некалькіх мінскіх ВНУ, у тым ліку, з Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Мінскага радыётэхнічнага інстытута, Беларускага інстытута культуры і іншых. Такім чынам, у 1989 годзе з'явіўся "Кантынент", потым — Міжнародныя курсы, а два з паловай гады таму наша ўстанова атрымала назву "Міжнародны навучальны цэнтр".

**— З каго складаецца кантынгент вашых навучэнцаў?**

— Не сакрэт, што сёння беспрацоўе ўсё больш настойліва грукае ў нашыя дзверы. І часта шэрагі беспрацоўных папаўняюць не толькі выпускнікі школ і вучэльняў, але і спецыялісты з вышэйшай адукацыяй — здольныя, інтэлектуальныя, прафесійна падрыхтаваныя. Таму мы надаем вялікую ўвагу тым спецыяльнасцям, што патрэбныя рынку працы. Наша мэта — даць чалавеку магчымасць зарабіць сабе і сваім дзецям, груба кажучы, на кавалак хлеба, задаволіць свае мінімальныя жыццёвыя патрэбы. Таму мы прапануем спецыяльнасці прадаўцоў, касметолагаў, цырульнікаў, кухараў, кандытараў, афіцыянтаў, майстроў па рамонце радыё- і тэлеапаратуры і шмат іншых. Паўтаруся, гэта тое, што сёння патрэбна рынку. З нашым дыпломам у кішэні (а, дарэчы, гэта сертыфікат міжнароднага ўзору) чалавек не застанецца на вуліцы. А гэта для нас — самае важнае.

**— Навучанне ў вашым Цэнтры платнае. Ці даступнае яно для большасці нашага насельніцтва?**

— Наша крэда — пры высокай якасці адукацыя павінна заставацца даступнай. Вы заўважылі, думаю, як шмат у нашых аўдыторыях і залах моладзі, падлеткаў і нават дзяцей. Асабліва гэта датычыць занятак па харэаграфіі альбо па ўсходніх адзінаборствах. Дзеці мяняюцца на вачах: дзяўчынкі робяцца больш зграбнымі, прывабнымі, упэўненымі ў сабе. А ушу альбо каратэ — гэта табе не бойка ў падваротні. Увогуле, наша мэта — комплекснае развіццё дзіцяці.

А што да коштаў... Апошні час з'явілася вельмі аптымістычная тэндэнцыя: фірмы накіроўваюць да нас сваіх патэнцыйных супрацоўнікаў і аплочваюць іхняе навучанне. А калі чалавек аплочвае сваю адукацыю з уласных сродкаў, мы ідзем яму насустрач — робім 50-працэнтную скідку. Усім без выключэння. Хаця не, выключэнні здараюцца... Прыйшла да мяне шматдзетная мама з Чарнобыльскай зоны і папрасіла ўзяць хлопчыка да нас вучыцца. А грошай у яе, самі разумееце... І мы вырашылі вучыць малога бясплатна. Карацей, час дыктуе неабходнасць ісці насустрач людзям, дапамагаць ім.

**— Хацелася б даведацца пра ваш педагагічны калектыў.**

— У нас працуюць натхнёныя, захопленыя людзі, прафесіяналы. Прывабіць іх высокімі заробкамі я не ў стане, але тым не менш усе нашы выкладчыкі праходзяць праз жорсткі конкурсны адбор. Наш прынцып захоўваецца непарушна: веды павінны мець сапраўды міжнародны ўзровень. Таму штогод у травені-чэрвені мы наладжваем своеасаблівае выпрабаванне, падчас якога выкладчык здае іспыт, а студэнт — дэманструе веды і ўменні. У нас замацоўваюцца толькі падзвіжнікі і фанатыкі (у лепшым сэнсе гэтага слова) сваёй справы. Яны хочуць дарыць людзям свае веды, як ні дзіўна гэта гучыць у наш прагматычны час. Хачу падзяліцца з вамі сваёй марай: мару, каб кожны выкладчык замежнай мовы праходзіў стажыроўку за мяжой. Тады мова не будзе сухой, акадэмічнай, маўляў, "чытаю і перакладаю са слоўнікам". Чым больш замежных моў будуць ведаць нашыя суайчыннікі, і, у першую чаргу, дзеці, тым больш цывілізаванай і адукаванай будзе нацыя.

**— Падзяліцеся, калі можна, вашымі найбліжэйшымі планамі.**

— Планы ў мяне, на жаль, не вельмі вясёлыя. Праблем шмат і звязаны яны, зразумела, з фінансамі. Справа ў тым, што згодна з прэзідэнцкім указам наша арэндная плата павінна складаць 2 умоўныя адзінкі за квадратны метр нашых плошчаў, а грамадская камісія гарвыканкама патрабуе чамусьці ажно 10! Пагражаюць, калі не заплоцім, закрыць. Чаму? Па якім законе? Мы ж не гандлёвая структура, не офіс, не сховішча — у нас толькі вучэбныя аўдыторыі. Мяркую звярнуцца да старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына, а калі там не атрымаю падтрымкі — дык і "вышэй" пайду. Цэнтр мы павінны захаваць. Для людзей, для будучыні.

**Гутарку вяла Дзіна КІРЫЛАВА**

## СРЭБНЫ ГУК ЦЫМБАЛЬНЫХ СТРУН

З 16 па 18 кастрычніка ў Мінску праходзіць музычны фестываль "Сярэбраны звон цымбалаў". Арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі саюз музычных дзеячаў і Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў, якая была створана ў травені мінулага года, калі адзначалася 90-годдзе з дня нараджэння заснавальніка нацыянальнай выканальніцкай школы Іосіфа Жыновіча.

У праграме фестывалю — канферэнцыя па праблемах педагогікі, методыкі і гісторыі выканання на беларускіх цымбалах, а таксама шматлікія канцэрты, якія пройдуць у Акадэміі музыкі, філармоніі, музычнай школе № 1, гімназіі-каледжы пры БАМ. Адбудуцца канцэрты лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, вучняў ДМШ Мінска і краіны, сярэдніх спецыяльных музычных устаноў. Завершыцца імпрэза вялікім гала-канцэртам і ўрачыстай прэзентацыяй Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў, якую ўзначальвае заслужаны артыст Беларусі, прафесар, загадчык кафедры народных інструментаў Беларускай акадэміі музыкі Яўген Гладкоў. Фестываль — першае буйное мерапрыемства Асацыяцыі, якое, спадзяемся, будзе мець працяг і зацікавіць не толькі спецыялістаў, але і шматлікіх аматараў. Тым больш, што на ўсе мерапрыемствы фестывалю ўваход свабодны.

**Наш кар.**

## ДЭТЭКТЫЎ-ПАДРУЧНІК ГІСТОРЫІ

Магчыма, хтосьці іранічна ўсміхнецца, прачытаўшы загаловак, але такое сапраўды магчыма. Так, выдавецтва "Лекцыя" ў серыі "Начны ганец" надрукавала кнігу Канстанціна Тарасава "Залатая горка", якая ўключае тры гістарычныя аповесці на аснове дэтэктыўных сюжэтаў. Невялікі зборнік кішэннага фармату добра дапаможа скараціць час у электрычцы ці ў падарожжы, бо адрасавана кніга не столькі прыхільнікам легкаважнага чытання, колькі шырокаму колу чытачоў, не абыякавых да мінулага Беларусі.

Перагортваючы старонкі кнігі, вы непрыкметна трапляеце ў свет далёкіх часоў: сумесна з баевіком-эсэрам блукаеце па мінскіх вуліцах і завулках, каб адарвацца ад шпікоў царскай ахранкі, і заадно спасцігаеце іх сучасныя назвы; удзельнічаеце ў раскрыцці і захопе банды забойцаў, якой кіравала прыгажуня-шляхцянка Ядвіга; побач з палкоўнікам Матулевічам праходзіце праз калізіі руска-польскай вайны 1653—1667 гадоў. Родная гісторыя паўстае перад вамі ненавязліва, факты падтрымліваюцца вострай інтрыгай, дзе ёсць каханне і здрада, адвага і баязлівасць, вера і бязвер'е.

**Уладзімір МІХАЛЬЦОЎ**

**Юбілеі**

Не адно пакаленне хлопчыкаў і дзяўчынак, што жывуць у ваенным гарадку ва Уруччы, спасцігалі азы харэаграфіі, палюбілі рытміку і танец, наведваючы эстрадна-харэаграфічны калектыў "Фантазія", што вось ужо 20 гадоў працуе пры гарнізонным доме афіцэраў. За гэтыя гады "Фантазія" атрымала званне ўзорнага, стала славутай на ўсю рэспубліку. У дзіцячай тэлевізійнай віктарыне "Уся справа ў капелюшы" можна заўсёды пабачыць выступленні юных танцораў "Фантазіі". А выводзіла "ў свет" свой калектыў яго нязменны кіраўнік Наталля Іванаўна Кузьмянок.

У ансамблі займаюцца 40 дзяцей ад 6 да 17 гадоў. У рэпертуары "Фантазіі" — класічныя, народныя, эстрадныя танцы.

На здымку: танцуюць самыя юныя салісты "Фантазіі".

**Фота Мікалая ЛЯБЕДЗІКА, БелТА.**

**Сем вечароў з БТ**

## НАД ЧЫМ СМЯЕМСЯ, або СМЯЯЦЦА — НЕ ГРЭХ

Бярэш у рукі праграму перадач на тыдзень і адразу заўважаеш: наша большая. Калі на ГРТ, РТР, НТБ, па сямнаццаць-дваццаць перадач на дзень, дык у нас удвая больш. Больш і за канал "Культура". А калі падлічыць выпускі "Навін" праз кожныя дзве гадзіны? Атрымліваецца, што ў іх па тры, а ў нас — па пяць!

І сапраўды, наша праграма выглядае больш салідна. У іх "Доброе утро, Россия", а ў нас — "Добрай раніцы, Беларусь!". У іх "Подробности", а ў нас "Падзея". У іх "Смехапанарама", "Джэнтльмен-шоу", а ў нас: "Панядзелак з Хрыстафорам", "Спікер-хата", "Кінастружка", "Марсава поле", "Банка коміксаў", "Абібок", "Бархатны сезон"! І ўсе пад рубрыкай "забаўляльная" перадача. З панядзелка па пятніцу — уласнай вытворчасці, а па суботах і нядзелях — раніцой — запазычаная з англійскай "Магчыма, яны з'ехалі з глузду"...

Што тычыцца "імпартовай", не будзем разбірацца, яна на іх сумленні. Паглядзім, чым забаўляюцца нашыя творцы.

У панядзелак артыст Я.Крыжаноўскі хадзіў па... лазнях. Разам з Пецькам, Анкай ды Васілём Іванавічам. Потым з Холмсам і Ватсанам. Залазіў на шафу, каб пагглядзець у жаночае аддзяленне, стаяў намылены ў душы, а вада, зразумела, кончылася... Ха — ха — ха.

У аўторак тэлекамера завітала ў спікер-хату. Што гэта такое? Памятаеце "Будку откровения" на ГРТ? Гадоў з дзесяць таму. Дык гэта тое самае, толькі не ў "жывым" эфіры, а знятае на стужку. А ў астатнім — усё аднолькавае: людзі з вуліцы могуць выказаць нешта сваё, смешнае. Дзяўчаты, пазіруючы перад камерай, сцвярджаюць: "хорошая вещь в рекламе не нуждается", а хлопцы намагаюцца расказаць які-небудзь анекдот пра блакітнага Вовачку, напрыклад. А як расказваюць! "Той пайшоў, той паказаў, а той як спужаўся!" Затое ўсе ўдзельнікі атрымліваюць прызы. Адным словам, як у рэкламе: "Свежае рашэнне".

У сераду гледача частавалі "Кінастружкай". Кінамантаж камедыйных эпізодаў з вядомых мастацкіх фільмаў на тэму "хатняй камасутры" ("клубнічкі" па-нашаму) выглядаў больш прыстойна, чым самадзейныя анекдоты, але не без пошласці. Што і павінна было насмяшыць. Як і закадравы тэкст, накшталт: "каханне — гэта паляванне. Дык не страляйце адзін у аднаго, лепш кахайце!" Не запярэчыш, як у анекдоце пра Гімн...

"Марсава поле" ў чацвер знаёміць нас з салдацкімі анекдотамі. "Арыгінальныя" пастановачныя эпізоды тычацца стасункаў паміж жанчынай і вайскоўцам, паміж суседзямі, начальнікам і падначаленым, часам удала карыстаючыся "ўстойлівымі фразеалагізмамі" з надаеднай рэкламы. Напрыклад, знаёмае "а ну, дыхні" суправаджаецца больш сучасным: "свежее дыхание облегчает понимание"!

А яшчэ мы даведаліся, што колькасць зорак (на пагонах) велічыня пераменная, а маса мазгоў — пастаянная!

Пятнічную "Банку комікcаў" нават не бяруся пераказваць — не дайшло. Другі фільм пад назвай "Вяртанне агню", дзе пад музыку "Суліко" разыгрываюцца сцэны, вартыя трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса, часам нагадваў клаунаду ў стылі Чапліна, а месцамі — фільм "Пёс Барбос..." Магчыма, яны з'ехалі з глузду? Але гэта ўжо іншая гісторыя — не для будняў, а для выхадных. Раю пагглядзець серыял уласнымі вачыма. Гэта не пра нас. А пра іх, звар'яцелых.

А людзям сур'ёзным, хто не разумее "гумару", цікава было паглядзець фільмы "Ясная паляна — вытокі натхнення" — да 170-годдзя з дня нараджэння Л.Талстога, "Максім Гарэцкі і яго творчасць"; у рубрыцы "Беларускі мерыдыян" — пачуць расказ пра Давыд-Гарадок з вуснаў Л.Дранько-Майсюка. Мне асабіста цікава было дакрануцца да дзівоснага свету кампазітара і выканаўцы песень на ўласную музыку Таццяны Моўчан.

**Р.Б.**

## "ПЕРАХОДНАЕ" КАНТРЫ, альбо ТРОХІ ПРА ХЛЕБ МУЗЫКАНТА

***Гурт "Братья Хлестаковы" быў заснаваны трохі больш як год таму трыма студэнтамі Універсітэта культуры. І за гэты год каманда, якая напачатку грала нязвыклае для нас кантры, а цяпер пераключылася на больш звыклы для нас фолк-рок, паспела зрабіць калі не шмат, дык, прынамсі, нямала. На фірме "Ковчег" быў выпушчаны альбом гурта з арыгінальнай назвай "40 міль кепскай дарогі". "Братья Хлестаковы" паўдзельнічалі ў адборачным туры да леташняй "Рок-каранацыі" і адыгралі колькі канцэртаў у мінскіх клубах (калі ў Мінску яшчэ былі нейкія клубы).***

Дарэчы, як ні дзіўна, назва гурта не адлюстроўвае аніякіх сваяцкіх адносінаў паміж ягонымі ўдзельнікамі. Хлестакоў у камандзе толькі адзін — Уладзімір (гітара, вакал). А Ігара Скрыпку, які чамусьці грае не на скрыпцы, а на флейце, і басіста Сяргея Храмцова можна назваць хіба што ягонымі братамі па розуму. Ці "братамі па музыцы" — як каму больш падабаецца.

Нягледзячы на тое, што такую-сякую вядомасць каманда атрымаць усё ж паспела, і, не зважаючы на неаспрэчны прафесіяналізм яе ўдзельнікаў, музыку гурта часцей за ўсё можна пачуць не ў канцэртных залах ці ў клубах, а ў звычайных мінскіх падземных пераходах. І выконваюць хлопцы ў такіх выпадках старое добрае кантры. Менавіта падчас аднога такога імправізаванага канцэрта (станцыя метро "Плошча Перамогі") я і паразмаўляў з Уладзімірам Хлестаковым.

**— Усе ўдзельнікі твайго гурта маюць такую-сякую прафесійную музычную адукацыю. Гранне ў пераходах — гэта для вас спосаб заробку ці нешта кшталту своеасаблівай музычнай практыкі?**

— Элементарнае зарабленне грошай, прынятае, дарэчы, ва ўсім свеце. На Захадзе нават ёсць прафсаюзы вулічных музыкантаў. Падчас сваіх "пераходных" выступленняў мы граем збольшага ўласную музыку, таму нам абсалютна няма чаго саромецца. Нейкія песні на замову мы выконваем толькі тады, калі гэтыя песні падабаюцца нам самім.

А наконт практыкі... На жаль, у нас няма магчымасці часта выступаць на канцэртах, а я глыбока перакананы ў тым, што, калі ты музыкант, дык павінен граць, прычым граць шмат. Безумоўна, сцэна дысцыплінуе, але і ў выступленнях у пераходах ёсць свая спецыфіка.

І сапраўды, на няўдзячнасць публікі добрым вулічным музыкантам скардзіцца не даводзіцца. Як толькі прагучалі першыя гукі банджа Уладзіміра, з'явіліся і першыя слухачы. Часта яны просяць музыкантаў выканаць нейкую песню "на замову". Моладзь замаўляе, як правіла, нешта з расейскага рока, людзі старэйшага пакалення — безумоўна, "Бітлз", а расчуленыя добрай ігрой "Братьев Хлестаковых" бізнесоўага выгляду дзядзькі пры мне спыталіся ў музыкантаў, ці ведаюць яны што-кольвечы з рэпертуару Ніка Кейва. Усіх не ўлагодзіш. Але просьбы кшталту "Эй, братан, збацай "Мурку" адназначна не задавальняюцца.

Шмат хто лічыць, што паміж вулічнымі музыкамі існуе жорсткая канкурэнцыя, і ў іх ёсць нават нешта кшталту рэкета. Але, па словах Уладзіміра, усё гэта зусім не так, і адносіны паміж імі і калегамі вельмі прыязныя. "Нас у Мінску не так і шмат",— кажа Хлестакоў. Дый і ўвогуле, пра які рэкет можа ісці гаворка, калі за 2-3 гадзіны напружанай працы музыканты гурта атрымліваюць трохі больш як па 50 тысяч родных "зайцоў" на брата?

**— Апошнім часам усе ледзьве не ў адзін голас кажуць пра тое, што ў чалавека, які прафесійна займаецца музыкай на Беларусі, не можа быць ніякіх асаблівых перспектыў. Ці не задумваешся ты на гэты конт?**

— Мы лічым сябе прафесійнымі музыкамі, бо зарабляем на жыццё толькі музыкай. Таму, натуральна, задумвацца даводзіцца. Не буду казаць за астатніх, але асабіста я пакуль што кідаць музыку, збочваць са свайго шляху не збіраюся. А што да перспектыў раскруткі... Мне здаецца, яны ёсць ва ўсіх, але шмат што залежыць не ад каго-кольвечы, а ад цябе самога.

**— Ці верыш ты ў такую прыгожую амерыканскую казку пра тое, як да жудасці таленавітыя хлапцы былі змушаныя граць на вуліцы, пакуль іх не запрыкмеціў дырэктар "Джэфен" альбо "Соні" і ўмомант не зрабіў з іх сусветных зорак?**

— Тэарэтычна такі варыянт таксама магчымы. За час нашага грання ў пераходах у нас завязалася нямала знаёмстваў з патрэбнымі людзьмі — журналістамі радыё, тэлебачання, арганізатарамі канцэртаў.

Хаця разлічваць на тое, што ўдасца "раскруціцца" такім чынам, безумоўна, асабліва не выпадае, і хлопцы гэта цудоўна разумеюць. Прадзюсеры часцей за ўсё вышукваюць перспектыўных музыкантаў на вялікіх канцэртах і фестывалях, а не ў прамым сэнсе слова на вуліцы. А "Братья Хлестаковы" не так і часта бяруць удзел у такіх імпрэзах.

**— А якую публіку вы хацелі б бачыць на сваіх выступленнях?**

— Людзей, для якіх музыка была б не проста дадаткам да выпітага спіртнога. Мы досыць сур'ёзна падыходзім да стварэння музыкі і тэкстаў, і таму хацелі б, каб яны былі належным чынам успрынятыя.

На вялікі жаль, з гэтым у нас таксама праблема. Дый і ўвогуле, калі сёння рэалізоўваць сябе ў падземным пераходзе і зарабляць такім чынам нейкія грошы змушаныя збольшага маладыя музыканты, дык цалкам магчыма, што неўзабаве, шыбуючы на працу з метро, можна будзе сустрэць і нейкіх самых што ні ёсць мэтраў.

**Гальляш СЬВІРЫН**

## МАЙСТРЫХА З ГАНЦАВІЧ

Аднойчы ў маёй кватэры пабывалі прыблізна каля двух дзесяткаў маіх знаёмых. Я запрасіў іх, каб яны ацанілі мае новыя набыткі — навалачкі-вышыванкі, сапраўдныя ўзоры народнага мастацтва.

Што ж перад гэтым адбылося? Я ездзіў у адну вёсачку, што пад Баранавічамі, адкуль прыйшоў ліст ад невядомай жанчыны з просьбай аб дапамозе... Пасля завяршэння справы напрамкі пашыбаваў праз аўтарынак да свайго прыпынку. І тут убачыў надзвычайную прыгажосць — вышытыя з аднаго боку навалачкі, адна за другую лепш, яркія і дзівосныя! Іх прапаноўвала, як я потым даведаўся, Зоя Паўлаўна Зарэцкая. Вырабы сваіх працавітых і таленавітых рук жанчына прывезла з Ганцавічаў, дзе жыве і працуе будаўніком у ПМК-14. А навучылася Зоя Паўлаўна прыгожа вышываць ад сваёй маці, ураджэнкі вёскі Хатынічы.

Перада мной ляжалі навалачкі з сакавітымі ўзорамі розных геаметрычных фігур, якія ўтваралі казачны ансамбль. Я налічыў у іх каля дзесяці колераў і адценняў. У мяне хапіла грошай толькі на адну навалачку. Але спагадлівая Зоя Паўлаўна аддала мне за паўцаны і другую. Усе мае знаёмыя ўхвалілі гэтыя вышыванкі. А я падумаў: ёсць на Беларусі цудоўныя майстры, жывуць народныя рамёствы.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*г.Баранавічы*

## Панядзелак, 19 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** Навіны.
**15.15** Відэакурс нямецкай мовы. Перадача 7-я.
**15.35** Спажывецкая карзінка.
**15.50** ТБ — школе. Мая радзіма — Беларусь. 4-ы клас. Чырвоная кніга Беларусі.
**16.10** "Я малюю".
**16.25** Рэгіён. Перадача з Гомеля.
**17.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.10** Канцэртны сезон.
**17.40** "Госці ў дом". Нацыянальныя святы Туркменіі і Казахстана.
**18.10** "Дынастыя-2. Сям'я Колбі".
**19.00** Навіны.
**19.15** "Сёння з вамі..." Намеснік міністра сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Пётр Сікорскі.
**19.50** Парламенцкі веснік.
**20.25** "Панядзелак з "Хрыстафорам".
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.40** Падзея.
**21.50** Беларускі хіт-парад.
**22.00** "Пармскі манастыр". Экранізацыя шэдэўра Стэндаля. 1-я серыя.
**23.30** Трэці тайм.
**24.00** Навіны.
**0.10** Грэка-рымская барацьба. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. "Універсітэт" — ШВСМ (Гродна) — "Метро" (Парыж, Францыя).

**ГРТ**

**16.00** "Жорсткі анёл".
**17.00** Навіны.
**17.20** "Адгадай мелодыю".
**17.50** Гадзіна пік. Ток-шоу.
**18.15** Панядзелак з Познерам. Праграма "Чалавек у масцы".
**18.55** Прэм'ера сезона. "На нажах". Драма. Серыял.
**20.00** Час.
**20.35** Добрай ночы, малышы!
**20.50** "Горац": "Няма куды бегчы". Прыгодніцкі серыял.
**22.00** Погляд.
**22.55** Навіны.
**23.15** Лінія кіно. "Барыс Гадуноў". Паводле аднайменнай драмы А.С. Пушкіна.

**Расія**

**15.00** Мультфільм "Ліса і заяц".
**15.15** "Пазваніце Кузю!"
**15.30** "Першыя пацалункі". Маладзёжны серыял.
**16.00** Весткі.
**16.30** "Вежа".
**17.00** "Раганосец". Маст. фільм.
**18.30** Дзяжурная часць.
**18.35** "1 студыя".
**19.00** Весткі.
**19.30** Падрабязнасці.
**19.50** Каханне з першага погляду.
**20.20** Час кіно. "Мы з джаза".
**21.50** "Акуна матата". Забаўляльнае ток-шоу.
**22.45** Дзяжурная часць.
**23.00** Весткі.

**Культура**

**15.00**, 17.00 Навіны.
**15.05** "Школьны настаўнік".
**15.45** "Лукамор'е".
**16.05** "Парыжскі часопіс".
**16.30** Ш. Гуно "Вальпургіева ноч".
**16.50** "Жывое дрэва рамёстваў".
**17.05** "2003".
**17.10** "Бачу цэль!"
**17.35** Вакзал мары.
**18.00** "Гэта кіно". Да 100-годдзя С.М. Эйзенштэйна.
**18.50** Паэтычныя пазванкі.
**19.15** "Цуд-казка". "Прыгоды барона Мюнхгаўзена".
**19.30**, 23.00 Навіны культуры.
**19.50** "Нязгасныя зоркі". Аркадзь Райкін.
**20.15** "Імправізацыя на тэму..." Ю. Цемірканаў.
**20.45** "Пасля навін..."
**21.05** А. Галіч "Матроская цішыня". Спектакль тэатра-студыі Алега Табакова.
**22.45** Музычны антракт.

**НТБ**

**15.00** Сёння.
**15.15** Мультсерыял "Вяртанне на планету малпаў".
**15.45** "Зена — каралева воінаў". Серыял (ЗША).
**16.35** "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
**17.30** У запас. Парады для спажыўцоў.
**17.40** Крымінал.
**18.00** Сёння.
**18.40** "Герой дня". Аналітычная праграма.
**18.55** "Дзяржаўны злачынца". Прыгодніцкі дэтэктыў.
**20.40** Лялькі.
**21.00** Сёння.
**21.40** "Яе звалі Мікіта". 22-я серыя. "Міласэрнасць".
**22.30** Сённячка.
**23.10** Сёння апоўначы.
**23.35** Футбольны клуб.

**8-ы канал**

**18.00** Праграма Кенета Коупленда.
**18.30** Для дзяцей. "Лятаючы дом".
**19.00** "Доктар Фаустус". Серыял.
**20.00** Аэробіка "Новы Эдэм".
**20.30** "Вечарніца".
**20.45** Музычная праграма.
**21.30** "Сцэна Еўропа".
**22.00** Дэні Айела ў маст. фільме "Камандзіроўка ў пекла".

**ТБ-6 Масква**

**7.00** Мультсерыял "Гузік і Рыжык".
**7.15** Дарожны патруль.
**7.35** "Тыя Хто".
**8.00** ТСН-6.
**8.10** "Грэйс у агні III". Гумарыстычны серыял.
**8.40** "Чэхаў і К°": "Дыпламат", "Папаша", "Перпетуум мобіле".
**9.35** Дзякуй за пакупку!
**10.00** ТСН-6.
**10.10** Аглядальнік.
**11.15** Знак якасці.
**12.00** ТСН-6.
**12.10** "Ночы Дэкамерона". Экранізацыя навел з кнігі Джавані Бакачо.
**13.45** Дзякуй за пакупку!
**14.00** ТСН-6.
**14.10** "Эдэра". Серыял.
**15.05** "Гузік і Рыжык".
**15.25** "Кунфу. Легенда працягваецца".
**15.50** Дзякуй за пакупку!
**16.05** Дыск-канал.
**16.35** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.30** "Грэйс у агні III".
**18.00** "Чэхаў і К°": "Тапёр", "Акцёрская гібель", "На чужыне".
**19.00** Навіны дня.
**19.30** Ток-шоу "Акулы пяра".
**20.30** "Тэатр Рэя Брэдберы": "Ашэр 2", "Пра цуда, рэдкі механізм".
**21.35** У свеце людзей.
**22.05** Катастрофы і войны.
**22.35** Дарожны патруль.
**22.50** ТСН-6.
**23.00** "Тыя Хто".
**23.15** Дыск-канал.
**23.50** Знак якасці.

**Еўраспорт**

**9.30** Тэніс. Еўрапейскі чэмпіянат ВТА ў Швейцарыі.
**10.30** Спартыўны аўтамабіль. Чэмпіянат ФІА ГТ, лепшыя гонкі сезона.
**11.30** Матагонкі. Лепшы Гран-пры сезона.
**13.00** Картынг. Чэмпіянат ФЕДЕКС у Аўстраліі.
**15.00**, 22.00 Велагонкі. Адкрыты нацыянальны чэмпіянат у Парыжы.
**17.00** Футбол. Кваліфікацыйны раунд Еўра-2000.
**19.00** Трактар з прычэпам. Нямецкія чэмпіянаты.
**20.00** Спартыўны аўтамабіль. Чэмпіянат ФІА ГТ у ЗША.
**21.00** Экстрэмальны спорт. Маладзёжная зона.
**1.00** Футбол. Еўрагалы.

## Аўторак, 20 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**6.30** Добрай раніцы, Беларусь!
**7.00** Навіны.
**7.10** Добрай раніцы, Беларусь!
**8.10** "Сёння з вамі..." Намеснік міністра сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Пётр Сікорскі.
**8.45** Спажывецкая карзінка.
**9.00** Навіны.
**9.15** ТБ — школе. Мая радзіма — Беларусь. 4-ы клас. Чырвоная кніга Беларусі.
**9.35** Вас выклікае Спартландыя.
**10.25** Абібок.
**11.00** Навіны.
**11.15** "Дынастыя-2. Сям'я Колбі".
**12.45** Прэм'ера песні.
**13.00** Навіны.
**13.10** "Песню бярыце з сабой". Тэлефестываль беларускай песні.
**14.00** Тураб'ектыў.
**14.20** Тэленавігатар.
**14.40** "Макаёнка, 9".
**15.00** Навіны.
**15.10** Відэакурс англійскай мовы.
**15.35** ТБ — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. Кандрат Крапіва і яго драматургія.
**16.05** "Напевы зямлі роднай". Фестываль беларускай песні ў г. Вільнюсе.
**16.25** Урокі Н. Наважылавай.
**17.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.15** Да дня незалежнасці Рэспублікі Казахстан. "Услед за травой". Дак. фільм.
**17.35** Шматгалоссе.
**18.10** "Дынастыя-2. Сям'я Колбі".
**19.00** Навіны.
**19.15** "Сёння з вамі..." Дырэктар шклозавода "Нёман" Анатоль Жыгала.
**19.50** Музычны салон з Элеанорай Язерскай.
**20.25** "Смяяцца — не грэх". "Спікер-хата".
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.40** Падзея.
**21.50** Беларускі хіт-парад.
**22.00** "Пармскі манастыр". Маст. фільм. 2-я серыя.
**23.35** Міжнародныя спартыўныя навіны.
**23.55** "Крок-жарт". Забаўляльная праграма.

**ГРТ**

**8.00** Навіны.
**8.15** "Жорсткі анёл".
**10.15** Смехапанарама.
**10.50** Хатняя бібліятэка.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.15** "Разам". Пра праблемы наркаманіі і наркалагічныя службы ў навучальных установах.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.15** "Новыя прыгоды Сіндбада".
**14.45** "Шчаслівы выпадак". Віктарына.
**15.30** "...Да шаснаццаці і старэй". Праграма для моладзі.
**16.00** "Жорсткі анёл".
**17.00** Навіны.
**17.20** Адгадай мелодыю.
**17.50** Гадзіна пік. Ток-шоу.
**18.05** Надвор'е.
**18.15** Тэма.
**18.55** "На нажах". Серыял.
**20.00** Час.
**20.35** Добрай ночы, малышы!
**20.50** Футбол. Кубак УЕФА. "Дынама" (Масква) — "Рэал-Сасьедад" (Іспанія).
**22.40** Песні "Залатога кальца".
**23.15** Навіны.
**20.35** Хакей. "Дынама" (Масква) — "Валерэнга" (Нарвегія).
**0.55** Праграма перадач.

**Расія**

**6.00**, 8.25 Добрай раніцы, Расія!
**8.15** Дзяжурная часць.
**8.55** Тавары — поштай.
**9.00** "Санта-Барбара".
**9.45** "Музыка, музыка..."
**10.00** Весткі.
**15.15** "Пазваніце Кузю!"
**15.30** "Першыя пацалункі". Маладзёжны серыял.
**16.00** Весткі.
**16.30** "Вежа".
**17.00** "Тытунёвы капітан". Музычны фільм.
**18.30** Дзяжурная часць.
**18.35** "1 студыя".
**19.00** Весткі.
**19.30** Падрабязнасці.
**19.45** "Аншлаг" прадстаўляе.
**20.20** Гадзіна кіно. "Манашкі на ўцёках".
**21.55** "Псі фактар". Серыял.
**22.45** Дзяжурная часць.
**23.00** Весткі.

**Культура**

**7.05**, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
**7.25** Акадэмія спорту.
**7.45** "Нязгасныя зоркі". Аркадзь Райкін.
**8.10** "Гэта кіно". Да 100-годдзя С.М. Эйзенштэйна.
**9.00**, 15.00, 17.00 Навіны.
**9.05** А. Галіч. "Матроская цішыня". Спектакль.
**10.45** Музычны экспромт.
**11.00** "Бачу цэль!"
**11.40** "Дзень і век Барыса Яфімава".
**12.05** "Рускі маёнтак". Маёнтак Альдэнбургскіх.
**12.30** "Чырвоны сарафан". Т. Пятрова.
**12.45** Пра фота.
**13.10** "Вечнае жыццё Шаха".
**13.45** "Расійскі кур'ер".
**14.24** "Восеньскія партрэты". Б. Пакроўскі.
**14.50** Паклоннікам Тэрпсіхоры.
**15.05** "Школьны настаўнік".
**15.50** Лукамор'е.
**16.05** "Фіма плюс..." Я. Шыфрын і С. Макавецкі.
**16.20** "Гутаркі пра рускую культуру".
**17.05** "2003".
**17.10** Артадокс.
**17.20** Ноу-хау.
**17.35** П. Мерыме "Венера Ільская".
**18.20** Дак. фільм "Без сонца".
**19.10** Цуд-казка.
**19.50** "З канцэртнай залы". А. Скрабін.
**20.15** "Са столі".
**20.45** "Пасля навін..."
**21.05** "Сёстры". Драма. Першы фільм кінатрылогіі.

**НТБ**

**5.00**, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 Інфармацыйная праграма, надвор'е.
**5.10**, 6.10, 7.15 Спорт.
**5.15** Дзень у гісторыі.
**5.20**, 7.25 Крымінал.
**5.35** Градуснік.
**5.40**, 6.50 У запас.
**5.50** "Сённячка-Піцер".
**6.15**, 7.20 Надвор'е.
**6.20** "Я — цэлаахоўнік". Асновы бяспечнай жыццядзейнасці.
**6.25**, 7.45 Сённячка.
**6.35** "Жывыя навіны".
**6.40** Мультфільм "Гаршчочак кашы".
**7.35** Вялікія грошы.
**8.10** Калі ласка!
**9.00** Сёння.
**9.15** "Герой дня без гальштука".
**9.45** У запас.
**10.00** Свая гульня.
**10.30** "Рускі век". Фізіёлаг Наталля Бехцерава.
**11.00** Сёння.
**11.20** "Толькі ў мюзік-холе". 3-я частка.
**13.00** Сёння.
**13.25** "Каханне і тайны Сансет Біч".
**14.10** Сённячка.
**15.00** Сёння.
**15.15** "Вяртанне на планету малпаў".
**15.45** Свет прыгод і фантастыкі. "Зена — каралева воінаў".
**16.35** "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
**17.30** У запас.
**17.40** Крымінал.
**18.00** Сёння.
**18.40** Герой дня.
**18.55** Свет кіно. "Праект А". 2-я частка.
**20.35** "Усяго" з Віктарам Шандаровічам.
**21.00** Сёння.
**21.30** "Айчым". Псіхалагічны трылер пра псіхапата.
**23.00** Сённячка.
**23.30** Сёння апоўначы.
**23.55** Футбольны клуб.

**8-ы канал**

**18.00** Праграма Кенета Коупленда.
**18.30** Для дзяцей. "Лятаючы дом".
**19.00** "Тагерт". Шматсерыйны фільм.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.30** "Вечарніца".
**20.45** Ромі Шнайдэр у серыяле "Людвіг".
**21.45** Муз-парад.
**22.00** Крыстафер Пламер у трылеры "Шкілеты".

**ТБ-6 Масква**

**6.00** ТСН-6.
**6.10** Мультсерыял "Гузік і Рыжык".
**6.25** Любіш — глядзі.
**6.35** Дарожны патруль.
**7.00** Дыск-канал.
**7.30** "Тыя Хто".
**7.45** Любіш — глядзі.
**8.00** ТСН-6.
**8.10** "Грэйс у агні III".
**8.40** "Чэхаў і К°": "Тапёр", "Акцёрская гібель", "На чужыне".
**9.30** Тэлемагазін.
**10.00** ТСН-6.
**10.10** "Тэатр Рэя Брэдберы".
**11.05** Дзякуй за пакупку!
**11.15** Знак якасці.
**11.30** Катастрофы і войны тыдня.
**12.00** ТСН-6.
**12.10** "Накцюрн для барабана і матацыкла". Музычная меладрама.
**13.40** Дзякуй за пакупку!
**14.00** ТСН-6.
**14.10** "Эдэра". Серыял.
**15.05** Мультсерыял "Гузік і Рыжык".
**15.20** "Кунфу. Легенда працягваецца".
**15.45** Тэлемагазін.
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.20** Любіш — глядзі.
**17.30** "Грэйс у агні III".
**18.00** "Чэхаў і К°": "Нябачныя свету слёзы", "Жывая храналогія", "Свістуны".
**19.00** Навіны дня.
**19.30** "Мужчынскі клуб", "Формула поспеху".
**20.30** "Лондан. Май 1916". Серыял (ЗША).
**21.30** У свеце людзей.
**22.05** Назло рэкордам!
**22.35** Дарожны патруль.
**22.50** ТСН-6.
**23.00** "Тыя Хто".
**23.15** Дыск-канал.
**23.50** Знак якасці.
**0.05** "Дылінджэр і Капоне". Чарговая кінематаграфічная сага.

**Еўраспорт**

**9.30** Велагонкі. Адкрыты нацыянальны чэмпіянат у Парыжы.
**10.30** Спартыўны аўтамабіль. Чэмпіянат ФІА ГТ.
**11.30** Матагонкі. Лепшы Гран-пры сезона.
**13.00**, 18.30 Футбол. Еўрагалы.
**14.30** "Матакрос". Журнал чэмпіянатаў.
**15.00** Дзюдо. Чэмпіянат свету юніёраў у Калумбіі.
**16.00** Аўтамабіль турысцкага класа. Нямецкі Супер-Турынг.
**17.00** Футбол. Таварыская сустрэча "Андрэас Брэме".
**20.00** Тэніс. Чэмпіянат АТП у Ліёне.
**21.30**, 23.30, Футбол. Кубак УЕФА.
**1.30** Бокс.
**2.00** Ралі. Чэмпіянат свету ФІА.

— ДЗЕ ТУТ "СЛАВЯНСКІ БАЗАР"?

*"К" лапатулькі*
*Дзяніса ЛАПАЦІНА,*
*студэнта культуралагічнага факультэта БУКа.*

## Серада, 21 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**6.30** Добрай раніцы, Беларусь!
**7.00** Навіны.
**7.10** Добрай раніцы, Беларусь!
**8.10** "Сёння з вамі..." Дырэктар шклозавода "Нёман" Анатоль Жыгала.
**8.45** Спажывецкая карзінка.
**9.00** Навіны.
**9.10** ТБ — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. Кандрат Крапіва і яго драматургія.
**9.40** Відэакурс англійскай мовы.
**10.05** Шматгалоссе.
**10.35** "Спектр". Стварэнне карціннай галерэі імя І.Ф. Хруцкага ў Полацку.
**11.00** Навіны.
**11.10** "На кожны гук ёсць рэха на зямлі". Дак. фільм.
**12.05** Вока.
**12.25** Спявае Алег Газманаў.
**13.00** Навіны.
**13.10** "Відзьма-нявідзьма".
**14.10** Школа юных маракоў і рачнікоў у Гомелі.
**14.40** "Параграф". Перадача для беспрацоўных.
**15.00** Навіны.
**15.15** Відэакурс нямецкай мовы.
**15.35** "5х5".
**16.05** Мультфільм.
**16.25** "Пагранічча". Гродна.
**17.00** Навіны.
**17.15** "Маналог". Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Эльвіра Герасімовіч.
**17.45** "Лёс мой і надзея".
**18.10** Музычны антракт.
**18.30** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Беларусь — Славенія.
**20.00** "Сёння з вамі..." Прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт Міжнароднага культурнага фонду Кандрата Крапівы Мікалай і Алена Атраховічы.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.40** Падзея.
**21.50** Беларускі хіт-парад.
**22.00** "Прывітанне". Маст. фільм.
**23.30** "Смяяцца — не грэх". "Кінастружка".
**23.45** Каралеўскае паляванне.
**0.15** Навіны.
**0.25** Цёмны пакой.

**ГРТ**

**8.00** Навіны.
**8.15** "Жорсткі анёл".
**9.15** Погляд.
**10.15** У свеце жывёл.
**10.50** Хатняя бібліятэка.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.15** "Разам".
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.15** "Новыя прыгоды Сіндбада".
**14.45** Покліч джунгляў.
**15.05** Дзіцячыя анекдоты.
**15.30** "...Да шаснаццаці і старэй".
**16.00** "Жорсткі анёл".
**17.00** Навіны.
**17.20** Адгадай мелодыю. Гульня.
**17.50** Гадзіна пік. Ток-шоу.
**18.05** Надвор'е.
**18.15** Чалавек і закон.
**18.55** "На нажах". Серыял.
**20.00** Час.
**20.35** Добрай ночы, малышы!
**20.50** "Бландзінка за вуглом". Трагікамедыя.
**22.30** Дак. дэтэктыў "Лаўрэнцій Берыя. Судны дзень".
**23.15** Навіны.

**Расія**

**6.00**, 8.25 Добрай раніцы, Расія!
**8.15** Дзяжурная часць.
**8.55** Тавары — поштай.
**9.00** "Санта-Барбара".
**9.45** "Музыка, музыка..."
**10.00** Весткі.
**15.15** Пазваніце Кузю!
**15.30** "Першыя пацалункі". Маладзёжны серыял.
**16.00** Весткі.
**16.30** "Вежа".
**17.00** "Абдуладжан, ці Прысвячаецца Сцівену Спілбергу". Парадыйная фантастычная камедыя.
**18.30** Дзяжурная часць.
**18.35** "1 студыя".
**19.00** Весткі.
**19.30** Падрабязнасці.
**19.45** Сам сабе рэжысёр.
**20.15** "Жэня, Жэнечка і "Кацюша". Лірычная трагікамедыя па сцэнарыю Булата Акуджавы.
**21.45** "Агата Крысці. Пуаро". Серыял.
**22.45** Дзяжурная часць.
**23.00** Весткі.

**Культура**

**9.00**, 15.00, 17.00 Навіны.
**9.15** Да 100-годдзя Г. Рашаля. "Сёстры" (СССР).
**11.00** "Паэтычныя пазванкі". Пародыі.
**11.15** Ноу-хау.
**11.30**, 13.30, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
**11.35**, 13.45 Дж. Пучыні "Мадам Батэрфляй".
**14.30** "Без візы". "У Вялікабрытаніі".
**14.40** "Фотапартрэт".
**15.05** "Школьны настаўнік". Серыял.
**15.50** Лукамор'е.
**16.10** Гутаркі пра рускую культуру.
**16.50** Паноптыкум.
**17.05** "2003".
**17.10** "Дзіцячы свет". Марыя Сіманава.
**17.35** "Хто мы?" "Анатомія рускай бюракратыі". Перадача 4-я.
**18.00** "Царская ложа". Фарух Рузіматаў.
**18.25** Дак. фільм "Без сонца". 2-я частка.
**19.15** Цуд-казка.
**19.50** Да 100-годдзя МХАТа. "Тайны партрэтнага фае".
**20.15** "Успамінаючы конкурс П.І. Чайкоўскага".
**20.45** "Пасля навін..."
**21.05** "18-ы год". Другі фільм з трылогіі паводле рамана А. Талстога "Блуканне па пакутах".

**НТБ**

**5.00**, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 Інфармацыйная праграма.
**5.10**, 6.10, 7.15 Спорт.
**5.15** Дзень у гісторыі.
**5.20**, 7.25 Крымінал.
**5.35** Градуснік.
**5.40**, 6.50 У запас.
**5.50** "Сённячка-Піцер".
**6.15**, 7.20 Надвор'е.
**6.20** "Я — цэлаахоўнік".
**6.25**, 7.45 "Сённячка".
**6.35** "Жывыя навіны".
**6.40** Мультфільм "Мячык і хлопчык".
**7.35** Вялікія грошы.
**8.10** Парад-але. "Лепшыя цыркі свету".
**9.00** Сёння.
**9.15** "Насланнё". Меладрама.
**10.40** "Асяроддзе".
**11.00** Сёння.
**11.20** Мультфільм "Як ліса зайца даганяла".
**11.30** "Альба Рэгія". Ваеннае кіно.
**13.00** Сёння.
**13.25** "Каханне і тайны Сансет Біч".
**14.10** "Трава і вада". Псіхалагічная драма пра складанасці падлеткавага ўзросту.
**15.00** Сёння.
**15.15** "Вяртанне на планету малпаў".
**15.45** "Зена — каралева воінаў". Серыял.
**16.35** "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
**17.30** У запас.
**17.40** Крымінал.
**18.00** Сёння.
**18.40** Герой дня.
**18.55** "Кончаны чалавек". Фантастычны трылер.
**20.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Інтэр" (Мілан, Італія) — "Спартак" (Масква, Расія).
**21.00** Сёння.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Інтэр" (Мілан, Італія) — "Спартак" (Масква).
**23.35** Сёння апоўначы.
**0.00** Дзённік Лігі чэмпіёнаў.

**8-ы канал**

**18.00** Праграма Кенета Коупленда.
**18.30** Для дзяцей. "Лятаючы дом".
**19.00** "Тагерт". Шматсерыйны фільм.
**20.00** Аэробіка.
**20.30** "Вечарніца".
**20.45** Ромі Шнайдэр у серыяле "Людвіг".
**21.45** "Формула бяспекі".
**22.15** "Самураі". Баявік.

**ТБ-6 Масква**

**14.00** ТСН-6.
**14.10** "Эдэра". Серыял.
**15.05** "Гузік і Рыжык".
**15.25** "Кунфу. Легенда працягваецца".
**15.50** Дзякуй за пакупку!
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.25** "Грэйс у агні III".
**17.55** "Чэхаў і К°": "Безнадзейны", "Доўгі язык", "Ціна".
**19.00** Навіны дня.
**19.30** "Я сама". Ток-шоу.
**20.30** "Кліч забойцы": "Прах да праху". Серыял.
**21.30** У свеце людзей.
**22.05** "33 квадратныя метры. Дачныя гісторыі". Гумарыстычны серыял.
**22.35** Дарожны патруль.
**22.50** ТСН-6.
**23.00** "Тыя Хто".
**23.20** Дыск-канал.
**23.50** Знак якасці.
**0.05** Начны сеанс. "Дзелавая вечарынка"

**Еўраспорт**

**9.30** "Матацыкл". Часопіс.
**10.30** Спартыўны аўтамабіль. Чэмпіянат ФІА ГТ, лепшыя гонкі сезона.
**11.30** Матагонкі. Лепшы Гран-пры сезона.
**13.00** "Матакрос". Журнал чэмпіянатаў.
**14.00** "Ветразь". Часопіс.
**14.30** Гольф. Еўрапейскі жаночы чэмпіянат — "Эр Франс Мадам Оупен".
**15.30** Тэніс. Погляд на чэмпіянат АТП.
**16.00**, 17.30 Футбол. Кубак УЕФА.
**19.00**, 1.30 "Матаспорт". часопіс.
**20.00** Тэніс. Чэмпіянат АТП у Ліёне.
**21.30** Ваеннае мнагабор'е. 13-ы фестываль у Парыжы.
**23.30** Дартс. Еўрапейскі чэмпіянат у Славеніі.
**0.30** Бокс.

## Чацвер, 22 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**6.30** "Добрай раніцы, Беларусь!"
**7.00** Навіны.
**7.10** "Добрай раніцы, Беларусь!"
**8.10** "Сёння з вамі..." Прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт Міжнароднага культурнага фонду Кандрата Крапівы Мікалай і Алена Атраховічы.
**8.45** "Спажывецкая карзінка".
**9.00** Навіны.
**9.10** "Сядзіба".
**9.35** "Лёс мой і надзея".
**10.00** "Насустрач". Ала Ігумнова і яе капела.
**10.45** "Аўта-парк".
**11.00** Навіны.
**11.15** "Дынастыя-2. Сям'я Колбі".
**12.00** "Госці ў дом". Нацыянальныя святы Туркменіі і Казахстана".
**15.00** Навіны.
**15.10** Відэакурс англійскай мовы.
**15.35** ТБ — школе. Гісторыя Беларусі. 10 клас. Палітыка беларусізацыі ў 20-я гады XX стагоддзя.
**16.05** "Чаму мы гуляем у вайну". Конкурс будучых юрыстаў краін СНД.
**16.30** "Роднае слова".
**17.00** Навіны.
**17.10** "Інтэграцыя еўрастыль". Тэленарыс пра "вечны рухавік".
**17.35** Канцэртны сезон. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Г. Радзько.
**18.10** "Дынастыя-2. Сям'я Колбі".
**19.00** Навіны.
**19.15** "Сёння з вамі..." Загадчыца дзіцячага сада № 5 г. Мінска Алена Чарнышова.
**19.50** Крымінальная хроніка.
**20.10** "Зроблена ў Беларусі". Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод.
**20.30** "Смяяцца — не грэх". "Марсава поле".
**20.45** "Калыханка".
**21.00** "Панарама".
**21.40** "Падзея".
**21.50** Беларускі хіт-парад.
**22.00** "Сыны". Драма.
**23.25** "Крок".
**23.55** Навіны.
**0.05** "Акалада".

**ГРТ**

**8.00** Навіны.
**8.15** "Жорсткі анёл".
**9.20** "Чалавек і закон".
**10.00** "Клуб падарожнікаў" (з сурдаперакладам).
**10.50** "Хатняя бібліятэка".
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.15** "Разам".
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.15** "Новыя прыгоды Сіндбада".
**14.45** "Класная кампанія".
**15.05** "Разумнікі і разумніцы".
**15.30** "...Да шаснаццаці і старэй".
**16.00** "Жорсткі анёл".
**17.00** Навіны.
**17.20** "Гэтыя забаўныя жывёлы". Тэлегульня.
**17.50** "Гадзіна пік". Ток-шоу.
**18.10** Надвор'е.
**18.15** "Каб памяталі". Наталля Вількіна.
**18.55** "На нажах". Серыял.
**20.00** "Час".
**20.35** "Добрай ночы, малышы!"
**20.50** Футбол. Кубак кубкаў. "Лакаматыў" (Масква) — "Брага" (Партугалія).
**22.45** Навіны.
**23.05** "Імітатар". Трылер.

**Расія**

**6.00**, 8.25 "Добрай раніцы, Расія!"
**8.15** "Дзяжурная часць".
**8.55** "Тавары — поштай".
**9.00** "Санта-Барбара".
**9.45** "Музыка, музыка..."
**10.00** "Весткі".
**15.15** "Пазваніце Кузю!"
**15.30** "Першыя пацалункі". Маладзёжны серыял.
**16.00** "Весткі".
**16.30** "Вежа".
**17.00** "Джокер". Прыгодніцкая камедыя.
**18.30** "Дзяжурная часць".
**18.35** "1 студыя".
**19.00** "Весткі".
**19.30** "Падрабязнасці".
**19.45** "Два раялі". У праграме прымаюць удзел акцёры: Вадзім Байкоў, Віка Цыганова, Дзмітрый Пяўцоў.
**20.30** "Брудныя танцы". Серыял.
**20.55** "Самазванцы". Серыял.




ЛЯ ФАНТАНА

# ХАЦЕЛІ "БЕЛУЮ ВЕЖУ", А АТРЫМАЛАСЯ... ЛЕПЕЙ

## ГРАН-ПРЫ ДзВюХ НАМІНАЦЫЙ ЗАСТАЛІСЯ НА БЕЛАРУСІ. УПЕРШЫНЮ.

***Вось і спраўдзіўся гістарычны тэзіс: недавер да эканомікі вяртае давер да мастацтва. Аб гэтым сведчаць праграма і вынікі III Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая Вежа". Дарэчы, на Беларусі прапісаліся чатыры штогодняя тэатральныя фестывалі і адзін сцэнічнага мастацтва лялечнікаў! І гэта ў гады эканамічнай бяды суседзяў-расіян, сусветнага эратычнага спектакля Лявінскі-Клінтан, павальнага захаплення хакеем. Беларускія гледачы разумна прызвычаіліся да стану побытавай катастрофы і не блытаюць фінансавы крызіс з рэнесансам. Але ж, вернемся да тэатра і глядацкіх залаў, якія ўдзячная брэсцкая публіка запаўняла ўсе чатыры дні фэсту. А конкурсныя пастаноўкі ішлі на дзвюх сцэнах: тэатраў лялек і драмы. Рэпертуарную афішу складалі п'есы славутых імёнаў: Гоцы, Астроўскі, Пірандэла, Караткевіч, Андэрсен...***

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

У гэтым годзе было відавочна — тэатры рыхтаваліся да ўдзелу ў брэсцкім форуме. Нават тры прэм'еры давялося ўбачыць: "Сіняя птушка", "Цыганскі кароль", "Ваўкі і авечкі". І няхай сабе гэта былі прэм'еры тутэйшых труп, затое ў гэтым годзе ніхто з запрошаных не стаміў вялацякучым сцэнічным дзеяннем і несучаснымі сумнымі рэжысёрскімі знаходкамі. Памятаеце, мінулагодні спектакль люблінскага тэатра? Сапраўдны фантан і падлога ў шашачкі на сцэне адбілі ахвоту ад Шэкспіра ў тынейджэраў. Нават у рамках школьнай праграмы. І толькі дзякуючы прыгажуну Леанарда ды Капрыо ў кіношнай версіі "Рамэа і Джульеты" падлеткі зноў вярнуліся да кніжных паліц. Чаго гэта пра кіно ўзгадала? А таго, што ў гэтым годзе трупа з Любліна прывезла спектакль "Шлюб" у пастаноўцы Марцэля Каханчыка. Стыльная рэжысура і аб'ёмная сцэнаграфія, брудна-белы і чорны колер, які апанаваў сцэну у той вечар, не пераўтварылі акцёраў у "натуршчыкаў-статыстаў". Яны арганічна існавалі ў прапанаваных аўтарамі ўмовах і бліскуча вялі свае акцёрскія партыі. Атмасфера спектакля, увогуле, нагадвала першыя чорна-белыя стужкі Анджэя Вайды. Апладысменты стылю!

Мне падумалася ў сувязі з cinema, а раптам і мы дачакаемся чарговай ролі Гамлета ўсеяднага Л. ды Капрыо. Як помсту ўсім айчынным "Гамлетам" апошняга часу. Інакш мясцовыя шэкспіразнаўцы неўзабаве дойдуць і да самога Караля Ліра з нагоды абяцанай паездкі за мяжу на фестываль. У нас з Шэкспірам проста і ў тэрмін.

Тэатральныя законы мастацтва спрацавалі і ў апошні вечар фестывалю, калі артыстаў Рускага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага глядацкая зала трымала апладысментамі і, нарэшце, кветкі і авацыі. Здавалася б, чаго можна чакаць ад п'ес Астроўскага? Класіка, якая набіла аскому ў школе і ў інстытуце. Класіка, якая нарматыўна мусіла быць у рэпертуарнай афішы прыстойнага тэатра дагарбачоўскіх часоў? Толькі алергіі. Тым больш, што Масква да гэтай пары ніяк не апрацівіца ад правала грыбаедаўскага твора "Гора ад розуму", дзе сам сабе і рэжысёр і Чацкі Аляксандр Меншыкаў... Расійская крытыка, дзёрзкая і недаравальная, разбіла ў пух і прах рэжысуру класічнага твора за перанос на сучаснасць. Менавіта напярэдадні мінскага спектакля "Ваўкі і авечкі" тутэйшая крытыка абмяркоўвала маскоўскія рэцэнзіі... Не будзем распавядаць на тэму запатрабавальнасці драмы мінулых стагоддзяў і неўспрымальнасць спектакляў сённяшнім гледачом і тэарэтыкамі ад тэатра. Не да месца! Літаральна праз 50 хвілін пасля апошняга "Біс!" "горкаўцы" трымалі ў руках Гран-пры фестывалю "Белая Вежа". Журы, хоць у штаце ўсіх айчынных фестываляў, але ж не страціла пачуццё аб'ектыўнасці, і любоў да сапраўднага тэатральнага дзеяння не згасла. Адным словам, усіх падкупіла таленавітая рэжысёрская партытура пастаноўкі А.Каца. Без яўных і тужлівых метафар (што робіць гонар) спектакль нагадаў гледачам жорсткую ісціну: "дзе авечкі — там і воўк". Так было ва ўсе часы. І гэтае амаль пытанне, я — авечка, я — воўк — штодзённае існаванне чалавека, а не філасофія абстрактнага грамадства. Стаднасць — як канвульсія народных мас і апошняя стадыя грамадскага ладу постперабудовы, магчыма, і закране літаратараў XXI стагоддзя. Толькі гэта будзе іншы спектакль і іншы фестываль. І, спадзяюся, іншы народ. (Во завярнула!) Апладысментаў артыстам публіка не шкадавала і, здавалася, яшчэ хвіліна — і выйдзе на паклон сам аўтар п'есы "Ваўкі і авечкі". Сапраўды, класікі бессмяротныя. Недарэчна я пасяшалася наконт алергіі, але ж і "рукапісы не гараць".

Дарэчы, а памылак хапала на "Б.В.-98". Адна з іх — спектакль тэатра беларускай драматургіі "Развітанне з радзімай". Пастаноўка ўразіла надуманасцю сюжэта і нетэатральнасцю сцэнічнага твора. Юр'еў дзень у рэпертуары "Вольнай сцэны". Там жа, у вольным падзенні, і рэжысура. Шкада акцёраў, якія два дзеянні п'юць каву і ляжаць на канапах пад пледамі. Каб не музычнае афармленне, дык хтосьці з акцёраў мог бы і выспацца... Дзіўна толькі, што аўтар п'есы — паважаная мною Алена Папова, драматург з вопытам поспеху. Ці то яна здрадзіла драме на гэты раз, ці то поспех здрадзіў Паповай. Бывае...

Затое шчыра парадавалася за трупу Брэсцкага тэатра музыкі і драмы, якая падрыхтавала новы спектакль па аповесці Уладзіміра Караткевіча "Цыганскі кароль", інсцэніроўка мэтра беларускай сучаснай п'есы Аляксея Дударава. Акцёры натхнёна выконвалі дыялогі, маналогі напісаныя Караткевічам, нават выканалі б рэжысёрскую звышзадачу, калі б яна была... Ліцадзеі заўсёды плацяць лёсам за крызіс рэжысуры. Безумоўна, пастаноўка Ю.Лезінгевіча на ўзроўень вышэй за мінулагоднюю —"Любоў — кніга залатая" рэжысёра В.Грыгалюнаса. Дый сцэнаграфія на гэты раз не ўлічвала густы некрафілаў — пласцікавых кветачак і вяночкаў на сцэне не было. Як і інтрыгі, кульмінацыі... Прамаліненайнасць паводзін станоўчых персанажаў нагадвала іншых герояў: збядненую Паўлінку і каўбоя Яўхіма — толькі ў маладыя гады. Косы, белая хустачка, шырокая сарочка і высокія боты...

Дарэчы, атрыбуты ў спектаклі няважныя, як і ўсе астатнія дэталі тэатральнага дзеяння за адсутнасцю гэтакіх. Спектакль трымаўся на тэкстах Уладзіміра Караткевіча. Толькі паміж літаратурай і акцёрамі ў тэатры існуе і пасрэднік — рэжысёр. Вядома, што творы Караткевіча цяжка перанесці на стужку ці ажыццявіць на сцэне. Яны самадастатковыя. І вось тут узнікае пытанне: а ці была драматургія ў інсцэніроўцы, якая нагадвала больш радыёспектакль з выдатным тэкстам Караткевіча? І як тут не ўзгадаць рэжысёра Міхалая Пінігіна, які адчувае асаблівасці нацыянальнай літаратуры і акцёра. Уяўляеце, які рэжысёрскі малюнак убачылі б гледачы ў маналогу аднаго з персанажаў "Цыганскага караля": "Няма цвёрдай улады — пануе моцны, мы п'ем. Простая механіка? П'янствуюць людзі — значыцца, каралеўства гіне. Верная прыкмета. П'юць, каб забыць, каб заліць гора і знішчыць няўпэўненасць. А галоўным чынам, каб прыдбаць сяброў".

Каб не ставіць кропку на сумных нотах, дазвольце вас павесяліць. Тым больш, што падстава для гэтага існуе і за ўсё было заплачана. Я маю на ўвазе "платных прамоўцаў" — крытыкаў, якіх заўсёды запрашаюць арганізатары для ўдзелу ў дыскусіях пасля фэсту. На гэты раз адна з крытыкес выдавала пасажы, годныя пяра Міхаіла Задорнава. Вызначыўшы жанр спектакляў "Белай Вежы" як "**карнавальная стихия**", яшчэ і ўдакладніла: "**стихия повернута внутрь острием в себя**". А як вам гэты прыгавор: "**тупики постмодернизма**"? Вось і ўспомніш у каторы раз класікаў тэатральнага мастацтва, напрыклад, Антона Паўлавіча Чэхава: "Они **хочут** свою образованность показать и поэтому всегда говорят о непонятном".

Затое гледачы і служыцелі тэатра зразумелі галоўнае — берасцейскі фестываль набірае моц і папулярнасць сярод іншых конкурсных форумаў за межамі бацькаўшчыны. Не ведаю, як вам, а мне заўсёды прыемна, калі іншаземцы пытаюцца не толькі пра кошт алея, але і пра жыццё-быццё тэатраў і айчынных зорак сцэны.



"Казка і не толькі пра залатую рыбку", Польшча



"Яблычныя гульні", Германія



"Каза-луплена", Украіна



"Дэкамерон", Літва



"Шчаслівыя жабракі", Беларусь

### ЛАЎРЭАТЫ І ДЫПЛАМАНТЫ МІЖНАРОДНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ "БЕЛАЯ ВЕЖА-98"

*– "Сіняя птушка", тэатр лялек, Брэст;*
*– "Яблычныя гульні", тэатр харэаграфіі, Бон;*
*– Ларыса Гарлінская, актрыса Валынскага тэатра лялек;*
*Войцех Кабжынскі, рэжысёр, Беласток;*
*Алена Ягорава, актрыса тэатра драмы і музыкі, Брэст;*
*Віталь Ляснеўскі, акцёр тэатра драмы і музыкі, Кіеў.*
*Лепшыя спектаклі:*
*"Чароўная зброя Кензо", Беларускі тэатр "Лялька", Віцебск;*
*"Ваўкі і авечкі", Дзяржаўны акадэмічны рускі тэатр імя М.Горкага, Мінск.*

**На разгортцы — фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

**_Беларускім лялечнікам нешта ў гэтым годзе не шчасціць. Столькі намаганняў, размоў было ў чаканні IV Міжнароднага фестывалю лялек у Мінску — як раптам абвальваецца дах, руйнуюцца падвалы ў Дзяржаўным тэатры. І ён не тое, што фестываль, але і ўласны 70-гадовы юбілей вымушаны быў адкласці да лепшых часоў. Рыхтаваць “Белую вежу” ў Брэсце было надта цяжка. Усе мы ведаем, які круты віток інфляцыі і абвал валютнага курса перажылі. Напачатку лялечная праграма абяцала шмат уражанняў: ад традыцыйнага “Карагёза” да экзатычнай бразільскай трупы і артыстаў з Італіі. Але, ці то з-за фінансавага крызісу, ці то з-за страху — многія калектывы не прыехалі, і таму змест “Белай вежы” значна скараціўся і збяднеў. Але ж ён не згубіў галоўнае — энтузіязм, імпэт і працаздольнасць яго арганізатараў і ў першую чаргу — гасціннасць Брэсцкага тэатра лялек і дырэктара фэсту Міхася Шавеля._**

# У ПАГОНІ ЗА СІНЯЙ ПТУШКАЙ

Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ

Фестываль адкрыўся доўгачаканай прэм'ерай гаспадароў — спектаклем “Сіняя птушка” М.Метэрлінка (пастаноўка З.Нуянзіна). Час стварэння яго расцягнуўся ледзь не на два гады. У тэхнічным плане ён вельмі складаны, з вялікай колькасцю лялек. Ды на самой справе, паспрабуйце ўявіць на сцэне царства нябожчыкаў, ці пакоі ночы з прывідамі і патаемнымі дзвярыма. А як, у якіх вымярэннях уявіць сабе царства ненароджаных немаўлят?

Самае выдатнае ў гэтым спектаклі — выразныя і неаднолькавыя лялькі. Яны ці то ў рост чалавека — нерухома пазіраюць на нас з чорнай цемры кабінета сцэны (як душа Святла), ці то Атлантамі-анёламі падпіраюць аблокі ў царстве дзяцей. Сцэны змяняюцца ў гэтым спектаклі, як у оперы: пры закрытай заслоне і музычнай застаўцы. І кожная карціна звышмэтай мае здзівіць гледача — пышнасцю, яскравасцю відовішча. Першыя светлавыя колы эфіру змяняюць побытавыя сцэнкі ў хаце Цільціля і Міціль, нябесным жытле бабулі і дзядулі ў царстве памерлых, у дэкарацыйнай “матэрыі” якога скарыстаны наплывы старых фотаздымкаў, ілюстрацый з кніг.

Да гонару тэатра адзначым вытрыманую тэхніку спектакля: чалавека ў “жывым плане” тут няма. Усё робяць і іграюць лялькі. І самыя выразныя з іх — Міціль — Т.Тэвасян і Цільціль — Ю.Цесля.

Тэатр пайшоў, хутчэй, не па шляху філасофскага роздуму аб недасягальнасці сіняй птушкі шчасця, а па шляху візуальнай раскошы, нават манументальнасці, увасаблення знакамітай сімвалічнай казкі М.Метэрлінка. Але калі глядзіш гэтае відовішча — не пакідае адчуванне залішняй канкрэтнасці, “літаральнасці” ўвасаблення. Таму спектакль набывае рысы кніжнай і ілюстрацыйнай серыі карцінак. Хаця ў Метэрлінка ўсё — ледзь недамоўлена, ледзь-ледзь не вымаўлена, канчаткі думак нібы знікаюць у тумане, расплываюцца. І таму застаецца ўражанне, быццам тэатр пасадзіў у клетку экзатычную, раскошлівую сінюю птушку, але яна раптам паблякла, паабмякла, згубіла таямнічасць і стала нагадваць камуфляж з блёсткамі. Прасталінейная канкрэтнасць стылёвага вырашэння прыйшла ў супярэчнасць з прыродай метэрлінкавага почырку, багатага на асацыяцыі і падтэксты. Тым не менш, праца брэсцкіх лялечнікаў выклікае павагу.


Лялькі і людзі на вуліцах Брэста

Аднак, трэба зазначыць — агульны ўзровень лялечнай праграмы на гэты раз быў сярэдні. Мы ўбачылі тэатр, “закамплексаваны” ўласнай прыродай, які забыўся на сваю ўмоўнасць. Амаль усе паказаныя спектаклі пакутавалі на залішнюю ілюстрацыйнасць бачання казкі, на літаральнасць яе пераводу ў візуальны рад. Не дапамог нават такі ўпадабаны сучасным тэатрам “выратавальны круг”, як “жывы план” акцёраў-лялечнікаў, якія наладжвалі свае, дарослыя гульні і пазіралі з-за лялек. Фантазія не скокнула вышэй за традыцыйную запеўку: аднойчы з прычыны тугі сабраліся ў хаце казачнікі, каб гісторыі паслухаць і адзін аднаму падыграць.

Таму засталіся аўтаномнымі, нават ляльку забілі, казку заглушылі карагоды, што танчаць расфуфыраныя фрэйліны з буклямі ў спектаклі Омскага тэатра “Прынцэса на гарошыне”. Візуальная прыгажосць гэтага прадстаўлення, быццам мастацкая застаўка, самадастатковая, мае неакрэсленыя адносіны да казкі Г.Андэрсена і не скарыстана ў “рэжысуры” ці “драматургіі” спектакля. Казка стала нейкім непатрэбным, залішнім дадаткам да цудоўнай празрыста-каляровай дэкарацыі В.Вяроўкінай і доўгай фанаграмы з запісамі класічнай музыкі.

І падумалася, як гогалеўскай Агаф'і Ціханаўне: “Вось калі б нос Х. ды прыставіць да вуснаў У.” — вось калі б у сцэнаграфічнае асяроддзе, створанае В.Вяроўкінай, ды змясціць “Сінюю птушку” М.Метэрлінка, ды вызваліць сцэну ад людзей...

“Падтэкст”, ці “другі план”, суадносін лялечнікаў у спектаклі Краснадарскага тэатра “Казка пра змея” ўвогуле зыходзіць з кухоннай сваркі акцёрскай грымёркі: не хачу іграць, абрыдла ўсё, — і гатовы зламаць фанерную шырму і вываліцца на сцэну. Гэты спектакль стаў апафеозам “лянівага” погляду на казку, абыякавасці да тэатра, гледачоў і ўласнага “фанернага” мастацтва (рэжысёр М.Бойка).

Другая бяда ўбачаных спектакляў — боязь прасторы, боязь сцэны, якая з гэтай прычыны пачынае страшэнна засмечвацца мноствам рэчаў, усялякіх збудаванняў, дадатковых пляцовак. Але ад гэтага свет сцэны, свет казкі не павялічваецца, а, наадварот, звужваецца, загрувашчаны матэрыяй. Застаецца ўражанне “фанеры” і бутафорыі. Ды яшчэ яна дэманстратыўна падае сама сябе. Таму многія спектаклі былі бясконцай экспазіцыяй (толькі чаго? — Сюжэта? — Жыццеўспрымання? — Хутчэй, паказу рэчаў на сцэне) без развіцця, кульмінацыі і фіналу.

На гэтым фоне вылучаўся сваёй “беднасцю”, прастатой, але — і вобразнасцю беластоцкі спектакль “Не толькі пра залатую рыбку”. Ішоў па белым свеце жабрак-музыка, зазірнуў да круглатварай тоўстай сялянкі кашы паесці. А тая працаваць прымусіла — казкі паказваць, песні спяваць. Сродкі гульні простыя — драўляны стол, лялькі, выцягнутыя з меха, ці набор пукатых збаноў — сямейнікі папа, а мех з зернем — цякучы, прыгучы бес. Няма ні замкаў, ні палацаў, толькі змяняюцца абрусы на стале: палатняны, шаўковы, залацісты — вось і ўвесь “узлёт” старой да шляхцянкі і царыцы. Аб'ектамі гульні тут становіцца нават мелодыя. Як толькі не гучыць “Во поле берёза стояла” — пранізліва-лірычна, задуменна і як плясавая, і як марш. Згаданы спектакль быў цудоўным напамінам аб умоўнай і бясконца багатай прыродзе лялечнага тэатра.

Але перамагчы наканавана было на гэты раз не “Залатой рыбцы”, а экзатычнай, філігранна распрацаванай “Чароўнай зброі Кендзо” з Віцебска. Менавіта гэты спектакль, створаны на падставе легенд і казак японскага фальклору, крохкі, тонкі, адточаны па стылі і выкананні, атрымаў Гран-пры. Хаця ўціснуты ў пеналападобную залу і невялічкую сцэну Брэсцкага тэатра, ён ствараў уражанне “загружанасці” гэтай сцэны. Нерухомую ляльку перакрывала залішняя патэтыка апавядальніка. І ўсё ж такі перамога віцебскіх лялечнікаў заслужаная. У спектаклі няма плоскага малюнка, “фанеры”, скарыстана і нібы тонкім пэндзлем прарысавана ўся глыбіня сцэны; яна дыхае, змяняе нават сваю стыхію: зямное царства становіцца стыхіяй вады, акіяна. (рэжысёр В.Клімчук, мастак Г.Сідарава). Акцёры ў чорным зграбным адзенні і шыракаполых капелюшах кранальна-рытуальна кланяюцца лялькам, гледачам, адзін аднаму. Уся “тэхнічная кухня” (крыжавіны марыянетак, спецыяльная вопратка, шырма) набываюць у спектаклі мастацкую якасць, абыгрываюцца, высвечваюцца. Маленькія марыянеткі, рытуальная пластыка акцёраў, фантастычныя, жахлівыя маскі — не ствараюць эклектыкі. Іншы раз маляўнічае відовішча карнавальных усходніх масак разбурае крохкую гармонію храма-жытла, храма кахання герояў, але гэта і ёсць сэнс казкі, дзе стыхію прыроды ўтаймоўвае гармонія кахання. Казка-прыпавесць распавядае гісторыю юнака, які ў пагоні за летуценнем губляе самае каштоўнае — маладосць, час кахання.

А нам, фестывальнай публіцы, засталася надзея, што лялечны тэатр пазбавіцца закамплексаванасці, скіне ляноту фантазіі і ён перастане так палахліва трымацца за “матэрыю” (рэчы, бутафорыю) быццам хворы на “клаўстрафобію” з адваротным знакам.

НЕЙТРАЛЬНЫЯ ВОДЫ

# “КРУЖИТСЯ, КРУЖИТСЯ СТАРЫЙ ВАЛЬСОК...”

Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ

Які ўжо раз на беларускіх фестывалях нас здзіўляюць украінскія спектаклі. То раптам уразіць найдалікатнымі нюансамі псіхалогіі і падсвядомасці кіеўскі Малады тэатр, які на “Славянскія тэатральныя сустрэчы — 97” прывёз пластычна стыльны, адточаны спектакль “Дзень кахання, дзень свабоды”. І той жа тэатр літаральна ашаламіў на мінулай “Белай вежы” нязвыклую да эксперыментаў брэсцкую публіку незразумелым, “падраным”, жорсткім, амаль бессюжэтным “Войцэкам”. Каметай праляцеў, зрабіўшыся рытуальным баляваннем тэатра, чарнігаўскі спектакль “Сон у летнюю ноч”, у якім, нібыта кроплі, зазіхацелі аскепкі старажытных і новых тэатральных культур. Рэжысёр Андрэй Бакіраў потым паставіў Шэкспіра і на беларускай — гомельскай сцэне.

“На “Белай вежы—98” украінцы зноў ашаламілі. На гэты раз выдатным мужчынскім трыо акцёраў пад кіраўніцтвам рэжысёра А.Багамазава. Яны з амаль імправізацыйнай лёгкасцю паплылі па хвалях парадокса Л.Пірандэла (“Трохі віна, ці 70 абаротаў”). Жанравыя сцэнкі і метафізічныя дыспуты пра бессмяротнасць душы разыгрываюцца акцёрамі з аднолькавай энергіяй тэатральнай падачы. Слова, нібыта мяч у пінг-понгу, круглае, свядома абласканае, перакідваецца іграку, які ловіць яго ў крутой падачы і зноў атрымлівае ўдар. У выніку ўсё, што адбываецца на сцэне, напаўняецца энергіяй гульні і пражывання імгненнай эмоцыі альбо народжанай думкі, а ўслед за імі і фізічнага руху.

Спектакль складаецца нібыта з чаргавання нервовых споведзей. У ім быццам бы няма трывалых персанажаў, але, адначасова, сцэнічныя эцюды з карчмаром, у якога адвакатавы сабака з'еў каўбаскі, альбо з прахожым, які спазніўся на цягнік і завітаў у шынок, — рэальныя, канкрэтныя, але, сыграныя аднымі і тымі ж акцёрамі, ператвараюцца ў міражы ўяўлення. Маналогі і сцэнкі, аб'яднаныя агульнай тэмай, настроем (альбо нагодай для імправізацыі?) — чалавек у пагоні за ўласным “Я”. Героі навел Пірандэла катастрафічна губляюць адчуванне жыцця, існавання, прыкметы індывідуальнасці. Хто я? Куды еду? Адкуль? Хіба гэта мая хата? — ускліквае адзін з герояў. Людзі-прывіды, людзі-маскі. І таму на сцэне можна проста сустрэцца, нібыта з бутафорыяй, з “нябожчыкам”. А ўяўна (альбо на самой справе?) памерлы праз некаторы час зноў з'явіцца да жывых. У драматурга ўсё пастаўлена пад пытанне — жыццё, смерць, прыкметы існавання.

Акцёры кіеўскага Тэатра драмы і музыкі надзвычай дакладныя ў ахвяраванні кожнай хвіліны сцэнічнага часу. Гэтая празмернасць гульнёвай стыхіі — рэалізаваная метафара асноўнага імкнення герояў Пірандэла: усе яны сутаргава чапляюцца за жыццё ў яго клапатлівых і дурнотных праявах. Хай гэта будуць праглынутыя сабакам каўбаскі (але пра іх так “смачна” разважаць і гаварыць), альбо ўяўныя пакункі шматлікіх каробак з крамы, альбо каляска са шкляначкамі віна — адзіная “рэальнасць” спектакля.

Магчыма, таму спектакль акальцаваны бясконца кранальным італьянскім “nostalgi”: спачатку танец, потым песні за святочным сталом з тортам і свечкамі.

А можа, і сапраўды Каппернік пазбавіў чалавека пачуцця апоры, зямлі, а разам з ёй і пачуцця ўласнай годнасці. Зямля ж круціцца, і мы ўсе нясемся з ёй невядома куды. Навошта і каму гэта трэба? Блізнятамі-братамі можна назваць украінскі спектакль “Трохі віна, ці 70 абаротаў” і цудоўны беларускі спектакль “Арт”, таксама паказаны на “Белай вежы”.

Трыо з “Арт”


“Ваўкі і авечкі”, Беларусь


“Прынцэса на гарошыне”, Расія


Спектакль “Шлюб”, Польшча

Вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 39.)*

**Надзя Лежэ:** "Я верыла, што гэта не назаўжды, што проста інакш ніяк нельга; асабліва цяпер, калі Малевіч пахаваў жывапіс. Я павінна сама, сваім розумам будаваць жыццё. І калі мяне вабіць да жывапісу надзея трапіць на вучобу да Фернана Лежэ, значыць, я павінна гэтага дамагчыся. І таму — да пабачэння. Да пабачэння, мама, толькі — да пабачэння! Нічога... Нічога... Добра, што я хоць трошкі ведаю польскую мову. Разам са мной мае надзеі, мая рашучасць. Нібыта верныя коні, унясуць яны мяне са шляху тугі і маладушнасці!"

У Варшаве затрымалася надоўга. Каб не памерці ад голаду, уладкавалася нянькай у сям'ю пана Гебеля. У вольныя гадзіны, безумоўна ж, малявала, наведвала музей Захентэ. Пачала ўпотай рыхтавацца ў Акадэмію мастацтваў. А тут прыйшло паведамленне: памёр бацька. Уражанне было моцнае. Вытрымала. А неўзабаве памёр і пан Гебель. Надзі давялося пакінуць гэтую сям'ю і ўладкавацца ў ціхі манастырскі прытулак для сірот...

Потым Надзя прачытала ў газеце "Кур'ер польскі", што мадыстцы пані Клары патрабуюцца майстрыхі па вырабе капелюшоў. Ці не паспрабаваць? Так Надзея Хадасевіч зрабілася мадысткай. І гэтае новае рамяство доўга карміла яе, ажно да паступлення ў варшаўскую Акадэмію. Аднак тут яна была чужая і для кансерватараў-прафесароў, і для студэнтаў-сакурснікаў. Усё, пра што яна паспела даведацца ў Смаленску ў Страмінскага і Малевіча, было невядомае яе калегам. І хаця яна ўсё рабіла паводле акадэмічнай праграмы, яе накіравалі ў асобны клас, каб гэтая небяспечная асоба не псавала сваімі фармальнымі эксэрсісамі іншых...

Але жыццё працягвалася. І неўзабаве Надзя пабралася шлюбам са Станіславам, студэнтам з паралельнай майстэрні. Спачатку яго бацькі былі супраць: "Навошта табе гэтая манголка, гэтая бальшавічка?", але потым змірыліся. Адбылося сціплае вяселле.

Аднак жыццё ў маладых не атрымалася. З аднаго боку, працягвалася цкаванне сварлівай свякроўкі, з другога — маладушнасць мужа, які цалкам залежаў ад маці. Што ж рабіць? І зноў у мары прыйшоў выратавальны Парыж, Лежэ...

# "НАДЗЬКА, ДАЕШ ПАРЫЖ!.."

На ўсялякі выпадак напісала Фернану Лежэ ліст, што, маўляў, я з мужам-мастаком хацела б прыехаць на вучобу ў вашу майстэрню. І нечакана атрымала адказ: "Прыязджайце!" Проста, як у казцы. З ліста Н.Лежэ да маці: "Я еду... Але не хвалюйцеся, гэтак жа гладка зачасаныя мае косы, як вы вучылі мяне ў маленстве, і я ўся тая ж ваша Надзя. А наперадзе — Парыж! І з'явіцца ў вас там унук альбо ўнучка. Вы ж нас нарадзілі проста на саломе, паміж справай. Што ж рабіць? Знайду і я сваю салому. Горад велізарны, у ім ёсць усё... Бонжур!"

Надзя і Станіслаў пасяліліся ў Лацінскім квартале, на вуліцы Вілет, у доме насупраць бібліятэкі Сен-Жэнеўу. Справа — Пантэон, злева ўдалечыні — сабор Парыжскай Божай маці, а школа жывапісу — "Academie moderne" — знаходзілася на вуліцы Нотр-Дам-дэ-Шан, 86. Амаль побач.

Заняткі вялі сам мэтр і ягоны сябар, жывапісец-пурыст (pur — чысты) Амедэй Азанфан, які ўяўляў накірунак у абстрактным мастацтве як супрацьвагу экспрэсіянізму і сюррэалізму. Абагульненасць і статыка — вось галоўныя элементы лаканізму форм, з якімі адразу ж сутыкнулася Надзя. Яна і Станіслаў занялі месцы за мальбертам, агледзелі аголеную мадэль і... так пачаўся новы, "парыжскі" перыяд жыцця беларускі Хадасевіч. Новы і апошні, які расцягнуўся на доўгія дзесяцігоддзі. Парыж "без мовы", Парыж феерычны і чужы, Парыж цудоўны і чужы, які так і не замяніў ёй родную Беларусь.

Безумоўна, без мовы цяжка. Аднак першай жонкай Азанфана была руская, ён наведваў Расію і трошкі гаварыў па-руску. "Карашо", отшэнь карашо!" — казаў ён пра творы Надзі. У Малевіча Надзя бачыла фантазію, адлюстраваную ў геаметрыі, у Азанфана — геаметрыю, якая забівае фантазію.

А Лежэ? Мажны, заўсёды ў неахайна накінутым паліто. Рудыя валасы зачасаны на прамы пабор, густыя бровы, кароткія шчацiністыя вусы. На выгляд пахмурны, але варта яму пачаць гаварыць, як навокал усё ператвараецца. Гэта — першае Надзіна ўражанне ад настаўніка. Хаця той пакуль што не звяртаў на яе, маўклівую, няўсмешлівую, з пукатымі скуламі, ніякай увагі.

Але аднойчы Азанфан паказаў Лежэ работы Надзі, і той упершыню з цікавасцю зірнуў на яе: "Прыходзьце да мяне ў майстэрню, у гэтым жа доме, я пакажу вам свае работы..."

І яна ўбачыла карціны, у якіх рэалізаваліся мары мастака пра зліццё машыны і чалавека. Магутнасць і дакладнасць колеру. Смелая незвычайнасць эстэтыкі. Паэтычная фантазія. Ззянне. Рух форм. Штосьці нагадвала малевічскіх "Палацёра" і "Жніво". І яшчэ Надзя ўбачыла той самы часопіс "Ésprit nouveau", які яна выпадкова ўбачыла калісьці ў горадзе Бялёў. Аказваецца, Лежэ ў рэдакцыі гэтага часопіса, заснаванага Полем Дармэ, пазнаёміўся з Азанфанам!



Н. Лежэ. "Аўтапартрэт"



Пабла Пікаса, Фернан і Надзя Лежэ

Неўзабаве Надзя пайшла ад Азанфана да Лежэ, а праз некаторы час яе творы з'явіліся на вучнёўскай выставе. Надзя Лежэ: "Крыкнуць бы, ды так, каб да самой Беларусі голас даляцеў: "Браты мае, Валодзя, Саша, Пеця! Вы дражнілі мяне: "Надзька, даеш Парыж!" — чуеце, браты мае, тут, у Парыжы, у горадзе мастакоў, выстаўлены і мае карціны! Нібыта і радасць у мяне, ды парваная; нібыта моль, з'ядае мяне саманезадаволенасць".

Вядомая калекцыянерка княгіня Наай пажадала набыць карціну Надзі. Мабыць, смяецца? І Надзя кінула, каб адчапіліся: пяць тысяч франкаў! А тагачасны сярэдні кошт вучнёўскіх работ быў 50 — 60 франкаў. Надзю выклікалі ў галерэю: "Княгіня купіць карціну, але просіць саступіць тысячу франкаў. Згодны?"

Але потым надышлі цяжкія часы. Цяжарнасць, нараджэнне Ванды, сур'ёзныя сваркі з мужам. Паралельна з вучобай — праца прыслугай у "Сямейным пансіянаце". Надзя Лежэ: "Жыццё маё — карусель. Я кручілася вакол слупа на драўляным коніку і адначасова хапала маё дзіця, мой жывапіс, маю працу... А нядалёка стваралі мастацтва і спрачаліся пра яго, сябравалі, кахалі, хадзілі ў тэатры, у кіно.. Я ў гэтым не ўдзельнічала. Я — чужая. Кручуся, і нікому няма справы. І... нікога няма. І далёка, у недасяжнасці той жаданы, мой светлы край..."

...З мужам давялося развітацца. Потым справы пайшлі лепей, і да Надзі прыйшла думка выдаваць свой часопіс. Ён меў назву "L'art contemporain" і ніжэй — "Sztuka współczesna" ("Сучаснае мастацтва"), гэта значыць, часопіс выходзіў на французскай і польскай мовах. Вокладку першага нумара зрабіў сам Фернан Лежэ. Што там публікавалася? Вершы, малюнкі і карціны Пікасо, Брака, Лежэ, Азанфана, ле Карбюзье, Мандрыяна, Маркусі... Нялёгкая кампанія? Праўда, выйшлі толькі тры нумары: "стала тужліва і цесна ў ім" (Н.Лежэ).

У той час Надзя ўжо шмат дапамагала Лежэ ў яго разнастайнай працы, і, нарэшце, мэтр запрасіў яе да сябе асістэнткай.

**Фернан Лежэ:** "Я запрасіў Надзю Хадасевіч, маю вучаніцу як выкладчыка-асістэнта ў маю школу жывапісу... Яе веды вельмі каштоўныя для мяне і маіх вучняў".

Але неўзабаве пачалася другая сусветная вайна. Акадэмія закрылася. Францыя акупавана. Лежэ, залічаны немцамі ў "чорны спіс", паехаў у ЗША. Клікаў з сабою Надзю, але тая не наважылася.. Засталася ў Парыжы.

**Надзя Лежэ:** "Як мне быць? Я не магу бяздзейнічаць. У такі момант пісаць карціны і толькі — гэта таксама бяздзейнасць". І — пайшла ў падполле: камуністкай яна зрабілася яшчэ да вайны. І так усе чатыры гады нямецкай акупацыі. Надзея Хадасевіч мела ў падполлі мянушку Жаржэта Пэно К № 31. Трымала сувязь з партызанамі, здабывала ім харчаванне і вопратку, распаўсюджвала ўлёткі...

Адразу пасля вайны Надзея Пятроўна наладзіла буйны аўкцыён, для ўдзелу ў якім прыцягнула Пікасо, Брака, Маціса. Сабрала 150 карцін, якія прынеслі тры мільёны франкаў. Іх падзялілі паміж сабой таварыства Чырвонага Крыжа і "Саюз савецкіх патрыётаў": усе сродкі былі прызначаны савецкім ваеннапалонным. І Надзея штосьці атрымала ў якасці кампенсацыі за стаптаныя чаравікі і зламаны ровар. Пасля аўкцыёну, падчас адной з сустрэч у майстэрні Надзі, Пікасо, паглядзеўшы на яе работы, сказаў: "Я бачу, вы настойліва імкнецеся трапіць на ўласны шлях. І не блукаеце навобмацак. Вы прыцягваеце гледача зразумелай выявай, а адначасова прымушаеце яго ўспрымаць незвычайную выяўленчую форму. Ну што ж, правільна, Надзін!"

Неўзабаве, пасля вяртання Фернана Лежэ з ЗША, памерла ягоная жонка Жана Лаі, з якой мастак быў разам з 1919 года. І ён застаўся зусім самотны — неўладкаваны, разгублены, разбіты. Не, не зусім самотны. Побач заставалася Надзя. Іншы раз забаўляла яго ігрой на балалайцы. І спевамі беларускіх песень. Памятаеце балалайку ў нацюрморце з самаварам у Лежэ? Гэта тая самая...

21 лютага 1952 года Фернан Лежэ і Надзея Хадасевіч зарэгістравалі свой шлюб у мэрыі Манружа і сціпла адсвяткавалі гэтую падзею ў рэстаране "Mediterenée".

**Надзя Лежэ:** "Я не выглядала ні прынцэсай па крыві, ні зоркай экрана, ні моднай дамай. Простая была і нават не "намаляваная"... Мне здавалася, што такім чынам я застаюся сабою, што той, якой я паехала са Смаленска, такой і павінна заставацца. Ні ў чым не рабіцца "чужаземкай"..."

**Фернан Лежэ — Надзі Лежэ:** "Раней для мяне існавала толькі мастацтва, я быў цалкам захоплены ім, і жанчыны існавалі для мяне толькі як адпачынак. І вось... дажыў да сямідзесяці гадоў, каб упершыню пакахаць..." Ды і сябры Фернана казалі: "Нарэшце Лежэ шчаслівы. Упершыню!"

Муж і жонка Лежэ знайшлі пад Парыжам, у Жыф-сюр-Івет, невялікі дамок з садам і зрабілі там рамонт. Абсталявалі дзве майстэрні — адну для Фернана, на другім паверсе, другую — для Надзі — на першым. Надзя Лежэ: "Як гаворыцца ў беларускай прымаўцы, "тры калы ўбіты, бараной пакрыты — і то хата". Безумоўна, гэты дом не падобны ні да нармандскай фермы, дзе прайшлі дзіцячыя гады Фернана, ні да тых беларускіх хат, дзе калісьці жыла Надзя, але ёй вельмі хацелася дамагчыся гэтага падабенства, і яна пасадзіла пад вакном сланечнік.

*Са старых запісаў*:

— Чаму менавіта сланечнік? У Ван Гога ж таксама сланечнікі?

— Я ўжо казала, што ў Ван Гога свой сланечнік, французскі. А да свайго сланечніка ў Жыф-сюр-Івет я ставілася асабліва, не так, як да астатніх раслін, з ім было звязана штосьці сваё, кроўнае, што існавала разам са мной калісьці на беларускай зямлі. І, як у дзяцінстве, я чакала ад яго падарунка. Насенне можна пасадзіць потым у зямлю, і з'явіцца шмат жоўтай весялосці пад маім вакном.

А аднойчы Фернан, працуючы ў садзе, выпадкова зрэзаў яго. Божа, што было! Надзя кінулася ў слёзы: "Mon tournesol, мой сланечнік...". Збянтэжаны, Лежэ разгубіўся: ён ніколі не бачыў, каб яна плакала! "Ну, што ж мне рабіць? Я намалюю табе пяцьдзесят такіх сланечнікаў..." І — намаляваў. Дваццаць! Цудоўных, каляровых, непераможных...

Сямейнае шчасце працягвалася нядоўга. 2 лютага 1955 года з Лежэ здарыўся інфаркт міякарда. Вярнуўшыся дадому са сваёй парыжскай майстэрні, Лежэ ад болю ў сэрцы не здолеў падняцца ў свой пакой і лёг у маленькім пакоі на першым паверсе. Надзя ўдзень і ўначы ахоўвала яго і спала ў калідоры на падлозе. Праз некалькі дзён мастак памёр... У майстэрні на мальберце з няскончанай карціны прарывалася весялосць. Гэта былі кветкі ў вазе...

І на надмагільнай пліце свайго настаўніка і мужа Надзя таксама адлюстравала сакавітыя кветкі. Кветкі без тугі і тлену... А яшчэ яна разам са сваім старым сябрам, дырэктарам Акадэміі Лежэ Жоржам Бак'е адкрыла ў горадзе Б'ютэ, што ў Прыморскіх Альпах, музей вялікага мастака. Тут — ягоная бессмяротнасць. Неба, кіпарысы, высокія травы. "... Глядзіце, я жывы, я палаю, я блішчу, я ўзрываюся, я памнажаюся. Я да вас звяртаюся..." — пісаў Луі Арагон пра Фернана Лежэ.

Праз дзесяць гадоў Надзя Лежэ падарыла гэты музей французскаму народу. Надзя Лежэ: "Упрыгожыць бы зямлю маленькімі музеямі. Як вогнішчамі. Ну, чаму толькі музыка і танцы распаўсюдзіліся так шырока? Усе спяваюць, усе танчаць, а жывапіс глядзець не ўмеюць. Як жа быць мастаку? Для каго працаваць?"

Мудрыя, вельмі сучасныя і своечасовыя словы...

**Барыс КРЭПАК**

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА



***(Працяг. Пачатак у "Культуры" ад 10.10.98 г., № 39.)***

**Леанід Пэн** (Іерусалім):

*"На жаль, мы не чыталі Ваш артыкул "Дамок у стылі ко-ко-ко", дзе гаворка ідзе пра мастака з Віцебска Марка Шагала і яго настаўніка Іегуду Пэна. Пра артыкул мы даведаліся з водгуку на ваш артыкул ("Окна" ад 14.05.1998) пані Хаі Якавіцкай з Бат-Яма, а з вашага адказу, апублікаванага тут жа, мы даведаліся, што для вас важна, каб была выяўлена сапраўдная прычына гібелі Іегуды Пэна.*

*Вось што я ведаю па гэтым пытанні. Мая цётка Пэн Ціпа (1917 года нараджэння, г.Гомель) сцвярджае (пра гэта ёй гаварыла ейная маці Роза Пэн), што Іегуда Пэн — родны брат дзядулі маёй цёткі, імя якога ці то Іцык, ці то Фава Пэн. Гэта значыць, мы хоць і далёкія, але ўсё ж такі родзічы Іегуды Пэна.*

*Я, Пэн Леанід, ведаю пра гэта і з аповедаў маёй маці Пэн Хаі, памерлай 31.01.1991 г. у горадзе Саратаве.*

*Вось што ўспамінала мая цётка: "У 1939 годзе я вучылася ў Ленінградзе, у інстытуце. Па вечарах падрабляла ў рэгістратуры паліклінікі. Неяк зарэгістравала мужчыну з прозвішчам Пэн. Разгаварыліся. Ён меркаваў, што мы родзічы, і расказаў пра смерць Іегуды Пэна. Ён лічыў, што версія аб забойстве Іегуды родзічамі — хлусня. На жаль, я з ім больш не сустракалася, помню, што ён тады жыў з сям'ёй у Ленінградзе, але ў якім раёне — не помню.*

*Паважаны пан Тапароўскі, у Вашых пошуках ісціны, спалучаных з жыццём і смерцю мастака Пэна, можаце на нас разлічваць, калі, вядома, мы падыходзім пад статус "родзічы Іегуды Пэна".*

(**Эла Барк**, Іерусалім (фрагмент інтэрв'ю).

**— Вы самі родам з Віцебска?**

*— Я толькі нарадзілася ў Віцебску. Мой бацька з Суража — гэта пад Віцебскам. А мой дзядзька быў жанаты з жанчынай з Віцебска, якраз ад яе, маёй цёткі, я і пачула пра гісторыю з мастаком Пэнам. Ды і ад іншых сваіх цётак, якія таксама з Віцебска.*

**— Што яны гаварылі пра забойства?**

*— Мне цётка расказвала, што гэта быў вельмі шумны працэс. Яна на ім прысутнічала. Трэба сказаць, што сям'я маёй цёткі жыла побач з сям'ёй той самай дзяўчыны — пляменніцы Пэна, якую абвінавацілі ў забойстве. Пляменніца была вельмі прыгожая, да яе заляцаўся адзін студэнт, з мясцовых, але ў той час ён не жыў у Віцебску, а прыязджаў на канікулы. Потым, калі забілі Пэна, цётка пайшла на пасяджэнне суда і там убачыла гэтага студэнта. Яна згадвала, што ён сказаў вельмі яскравую прамову. Ён пачаў словамі Астроўскага — так мне гаварыла цётка: "Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё". Яшчэ ён сказаў, што хацеў сваё жыццё пражыць сумленна, таму ён гаворыць праўду і толькі праўду. Цётка сказала, што гэтага маладога чалавека на судзе апраўдалі.*

**— А што гаварылі пра забітага?**

*— Што гэта быў стары чалавек, што ён быў народным мастаком Беларусі. І яшчэ — што ён быў вельмі бедным. Увесь горад пра гэта ведаў. Мае сваякі лічылі, што з-за спадчыны гэтага забойства быць проста не магло. Бо ў тыя гады ў карцінах ніхто не разумеў і асаблівай каштоўнасці ў іх не бачыў, асабліва ў такім правінцыйным гарадку, як Віцебск.*

**— Што ж, на думку вашых сваякоў, было прычынай забойства?**

*— Мой дзядзька, напрыклад, у 1938 годзе быў у Віцебску арыштаваны, другі дзядзька — ваенны ўрач з Барысава — расстраляны. Што ж тычыцца Пэна, то мае сваякі лічылі, што гэта гісторыя звязана з НКВД, як усе гісторыі таго часу. Ага, вось яшчэ што: мае сваякі казалі, што пасля вайны асуджаныя — сястра Пэна, яе дачка — пляменніца Пэна, якую, здаецца, звалі Неха, — вярнуліся ў Віцебск. Мой брат, які мне пра гэта распавядаў, лічыць, што яны вярнуліся ў горад, бо лічылі, што не вінаватыя. Ён сказаў, што, калі б яны былі вінаватыя ў зверскім забойстве свайго сваяка Пэна, то не вярнуліся б назад.*

*Помню, неяк я прыязджала ў Ленінград і чамусьці зайшла размова пра забойства Пэна. Прысутныя — мае сваякі — пацвердзілі, што Неха з маці вярнуліся ў Віцебск.*

## СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ

У маіх руках апынуліся асноўныя дакументы "Справы Пэна":

— Пратакол агляду месца здарэння.

— Пратаколы вочных ставак паміж абвінавачанымі.

— Абвінаваўчае заключэнне.

— Прысуд.

— І іншыя дакументы.

Я ўдзячны **Генадзю Міхайлавічу Лавіцкаму** — надзвычайнаму і паўнамоцнаму паслу Рэспублікі Беларусь, дзякуючы намаганням якога ўдалося атрымаць копіі пералічаных дакументаў, а таксама другому сакратару пасольства **Максіму Уладзіміравічу Рыжанкову**.

Але я быў бы рады, калі б адгукнулася сям'я Файнштэйн, якая праходзіла па гэтай справе, ці людзі, якія змаглі б праліць святло на лёс гэтай сям'і (і іх нашчадкаў), — перад вайной яны жылі ў горадзе Віцебску. А па некаторых звестках, — і пасля вайны. Вось іх імёны:

**Файнштэйн Лея Гірш-Янкелеўна**,

**Файнштэйн Абрам Рувімавіч**,

**Файнштэйн Неха Рувімаўна** (па чутках, яна знаходзіцца ў Ізраілі),

**Файнштэйн Рувім Зелікавіч**,

**Саламонік-Файнштэйн Рыва Рувімаўна**,

**Файнштэйн Хаім-Шлёма Рувімавіч**,

**Саламонік Мардхай Самуйлавіч**,

**Файнштэйн Залман Рувімавіч**.

## ПРАТАКОЛ АГЛЯДУ

*МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА, ЗДАРЭННЯ, ТРУПА ЗАБІТАГА гр-на гор. ВІЦЕБСКА*

*ПА ГОГАЛЕЎСКАЙ ВУЛІЦЫ Ў ДОМЕ № 1 ПЭН, Юлія Майсеевіча*

*1937 года Сакавіка 1-га дня, г.Віцебск*

*Я, начальнік 2-га аддзялення міліцыі гор. Віцебска — мал. лейтэнант міліцыі СТЭФАНЕНКА ў прысутнасці панятых: дырэктара гістарычнага музея г.Віцебска гр.РАФАЛОВІЧ Агнесы Сямёнаўны, праж. па Варонежскай вул. № 29, кв. 22 — і тэхнічкі таго ж музея САМСОНАВАЙ Марыі Усцінаўны, праж. па 2-ой Загаранскай вул., № 7, і праваднікоў сабак аддзела Крымінальнага вышуку тав. МІСЮКОВА І КАТУХОВА зрабілі агляд месца забойства мастака Пэна.*

*На месцы выяўлена наступнае:*

*Труп забітага ПЭНА ляжыць у кватэры № 4 дома № 1 па Гогалеўскай вул. на 3-ім паверсе.*

*Кватэра ПЭНА складаецца з чатырох пакояў, уваходнага калідора і кухні. Уваход у кватэру праз парадныя дзверы з Гогалеўскай вуліцы, уваход чорны маецца са двара ў кухню, прычым чорны ход ізаляваны і прыкметаў яго функцыянавання не маецца.*

*Усе пакоі — сцены кватэры забітага абвешаны карцінамі. Пры ўваходных дзвярах з боку калідора з унутранай часткі яго маецца жалезны ланцужок для закрывання ўваходных дзвярэй, таксама маецца ўнутраны замок, прычым ключ унутранага замка быў выяўлены грамадзянкай Самсонавай з вонкавага боку дзвярэй на падлозе ўваходнай лесвіцы. Ланцужок дзвярэй быў адчынены, прыкметаў у дзвярах якіх-небудзь пашкоджанняў не маецца, замкі спраўныя. Дзверы, што вядуць з калідора-прыхожай, былі прыадчынены.*

*У пярэднім пакоі знаходзіцца цыратовая кушэтка і на ёй мужчынскае, асенняе, старое, чорнае паліто з расшпіленым каўняром да галаўной часткі кушэткі. У другім пакоі, на пісьмовым стале знаходзіцца скрутак бруднай бялізны і аднаго бруднага ручніка, загорнутыя ў газету, у гэтым жа пакоі знаходзіцца кушэтка, абабітая страката-шэрай паласатай матэрыяй, прычым кушэтка стаіць каля кафельнай печы (галандкі) на адлегласці паўметра ад печкі, кушэтка стаіць наўскасяк, узгалоўем па напрамку да дзвярэй, што вядуць у кухню, другой часткай да дзвярэй, што вядуць у задні пакой, спінкай да ўваходных дзвярэй гэтага пакоя.*

*Каля кушэткі з боку спінкі стаіць стары венскі стул, на якім знаходзяцца дзве бляшаныя банкі з-пад кансерваў, у адной з якіх маецца вадкасць накшталт вады. На падлозе паміж кушэткай і печкай ляжыць труп забітага ПЭНА, апрануты: у чорных штанах, у паліто, на нагах надзетыя чорныя гумавыя старыя боты і шэрыя шарсцяныя шкарпэткі, галаўнога ўбора няма, на галаве і на твары трупа ляжыць чырвоная ватная коўдра, падушка ў блакітнай сацінавай навалачцы і такія ж дзве падушкі на кушэтцы ля ўзгалоўя, прычым усе падушкі з плямамі крыві. Ля печкі знаходзіцца каля ног трупа суконная чорная коўдра з плямамі крыві, пад правай нагой на краі паліто выяўлена запіска на маленькім шматку белай паперкі з блакнота ў клетку з напісаным хімічным алоўкам адрасам: "Винчевская 20 кв.8. Тумаренсон", і тут жа ля гэтай нагі на падлозе адзін лісток жоўтага колеру — этыкетка ад упакоўкі махорачнага пачака і два лісты ад брашуры школьн. Навічкова з загалоўкам "Нацыянальна-культурнае будаўніцтва і задачы камсамола" з перадавым артыкулам "Дэкларацыя правоў народа ў Расіі". На падлозе ля дзвярэй, што вядуць да кухні, ляжыць кавалак ад загалоўка газеты "Витебский пролетарий" ад 21 лютага 1937 года і адзін аркуш з часопіса "Работница" за 1935 год ліпеня месяца № 20.*

*У заднім пакоі ад трупа стаіць драўляная адзежная шафа з двухстворнымі дзвярыма, у якой знаходзіцца featuredрознае адзенне, абутак і розны хлам, у правай палове ўказанай шафы вісяць на вешалцы белы стары кіцель, на левым крысе якога ля борта на ўзроўні кішэні маюцца крывавыя плямы, таксама маюцца крывавыя плямы вышэй левай кішэні і ўнутры самой кішэні.*




**План кватэры Іегуды Пэна. Вынесены план пакоя, на якім паказана месца размяшчэння трупа — паміж печкай і канапай**

*Чорнае зімовае паліто паношанае з коцікавым каўняром, прычым у левай кішэні паліто выяўлена пісьмо з надпісам на канверце "Ленінград" у скамечаным выглядзе і плямамі крыві і кавалак скамечанай белай паперкі, на якім таксама маюцца плямы крыві. Каля левай кішэні паліто ля самага разрэзу маецца пляма крыві. У ніжняй шуфлядзе шафы маюцца розныя паперы, на якіх таксама маюцца плямы крыві.*

*У гэтым жа пакоі маецца стол-шафка, пры аглядзе якога ў верхняй шуфлядзе выяўлены скураны кашалёк карычневага колеру і ў ім пяцігадовы пашпарт серыі ФК № 534499 на імя ПЭН Юды Майсеевіча, выдадзены 1-м аддзяленнем Віцебскай гар.міліцыі, дзве ашчадныя кніжкі за № 33856, 32-й ашчадкасы на суму (5 р.) пяць рублёў і другая за № 5683 таксама 32-й ашчадкасы на суму (1300) адна тысяча трыста рублёў, наяўнымі грашыма (633 руб.) шэсцьсот трыццаць тры руб., прычым 18 купюр вартасцю ў 30 руб., 7 купюр вартасцю ў 10 р., чатыры — па 5 рубл. і адна ў 3 рубл. Адзін талон да паштовага перавода на 300 рубл. ад Віцебскага Гарсабеза з паштовым штампам ад 14 лютага 1937 года.*

*Пры аглядзе кушэткі, што знаходзіцца каля трупа, выяўлена: пад падушкай ля ўзгалоўя пад валікам сталовы нож невялікага памеру з металічнай рукаяткай з акрываўленым лязом аж да рукаяткі, пры аглядзе ляза сляды тачэння, пры аглядзе трупа каля галавы выяўлены маленькая сякерка-малаток з жалезнай рукаяткай, што ляжыць у лужыне крыві.*

*Турп ляжыць каля печкі ў становішчы на спіне, некалькі павернуты на левы бок, левая нага сагнутая ў каленным суставе і прылягае непасрэдна да падлогі, правая нага таксама сагнутая ў каленным суставе і ўпёртая ў падлогу.*

*Рукі сагнутыя ў локцевых суставах і сціснутыя ў кулакі — прыведзены да шыйнай вобласці.*

*Труп апрануты ў чорнае суконнае паўпаліто, зашпіленае на два гузікі. Верхнія штаны і кальсоны расшпілены, на падале кашулі — ніжняй і на кішэнях штаноў маюцца невялікія плямы крыві.*

*Пад трупам пачынаючы ад узгалоўя і да паяснічнай вобласці на падлозе маецца вялікая лужына крыві, на падэшве гумавых ботаў слядоў крыві не выяўлена. На шыі завязаны шарсцяны вязаны шалік з вузлом спрадзі.*

*На паўпаліто спрадзі, а таксама на штанах крывавых плямаў не адзначаецца.*

*Труп у стане рэзкага трупнага адубення, покрыва трупа рэзка халоднае, даступнае агляду скуранoе пакрыва рэзка бледнае. На шыі маецца адкрытая рана, што ідзе ад правай мочкі вуха да шчытавіднага храстка з парэзкай апошняга, рана пранікае да касцей хрыбетнага слупа.*

*Напрамак раны справа налева і зверху ўніз, краі раны гладкія. У вобласці лба ў правай скроні маюцца выцятыя лінейнай формы раны, такія ж раны з пашкоджаннем касцей чэрапа маюцца ў цемяннай вобласці.*

*Кафля печкі каля ўзгалоўя трупа, прыкладна на вышыні трох чвэрцяў метра пакрыта пацёкамі крыві.*

*У сумежным пакоі, што вядзе ў кухню, на падлозе ў накірунку да дзвярэй кухні маецца шэсць няправільна акруглай формы крывавых плямаў, памерам 3х4 см, на створцы дзвярэй каля ўзгалоўя трупа маецца пляма крыві ў выглядзе падцёка.*

*У кухні на ракавіне ўмывальніка (дошка ніжэй крана) маецца дзве крывавыя плямы памерам з гарошыну.*

*Пры аглядзе месца здарэння і трупа прысутнічалі:*

*1. Начальнік Віцебскага гараддзела РКМ НКВД БССР — ст.лейтэнант міліцыі тав. ЧАПКО.*

*2. Следчы Віцебскай гар.Пракуратуры тав. ДЗЯЦІСТАВА.*

*3. Пракурор горада Віцебска тав.НУСКУЛЬТАР.*

*4. Судова-медыцынскі эксперт г.Віцебска тав. МУРАШКА М.Л. і другі судова-медыцынскі ўрач тав. МУРАШКА В.А.*

*Пасля агляду трупа — апошні адпраўлены ў морг клінічнай бальніцы.*

*Рэчавыя доказы:*

*1. Чорнае зімовае паліто. 2.Белы кіцель. 3.Нож. 4.Жалезная сякерка. 5. Кашалёк з грашыма ў суме паказанай вышэй. 6.Кавалкі газеты і іншых папер з крывёю і паперкі з адрасамі "Винчевская 20 кв.8, Тумаренсон" канфіскаваныя. Кватэра апячатана.*

*Аб чым і складзены гэты пратакол.*

*НАЧАЛЬНІК 2-ГА АДДЗЯЛЕННЯ ВГМ МАЛ.ЛЕЙТЭНАНТ МІЛІЦЫІ: СТЭФАНЕНКА*
*ПАНЯТЫЯ: РАФАЛОВІЧ САМСОНАВА*
*ПРАВАДНІК СЛУЖБ. ШУК.САБАК.: (прозвішча адсутнічае)*
*НАЧАЛЬНІК ВІЦ.ГАР.АДДЗ.РКМ НКВД СТ.ЛЕЙТЭНАНТ МІЛІЦЫІ: ЧАПКО*
*СЛЕДЧЫ ГАРПРАКУРАТУРЫ: ДЗЯЦІСТАВА*
*ПРАКУРОР ГОРАДА ВІЦЕБСКА: НУСКУЛЬТАР*
*УРАЧЫ МЕД.СУД.ЭКСПЕРТЫЗЫ: МУРАШКА М.Л., МУРАШКА В.А.*

**Ян ТАПАРОЎСКІ**

***(Працяг будзе.)***

# КУЛЬТУРА

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!

## 7 дзён на тыдзень... 7 колераў вясёлкі... 7 цудаў свету... гармонію "трымаюць" 7 нот...

***"Культуры" — сем гадоў! А "14 кастрычніка" — дзень нараджэння газеты — утрымоўвае ў сабе аж дзве сямёркі! Але галоўнае, вядома, не ў нас. Галоўнае — гэта чытач "К", да якога, карыстаючыся сямігадовай нагодай, і звернуты наш напамін: хутка пачнецца падпіска на 1999 год! І мы ўпэўнены, што наш сталы чытач застанецца з намі! Аднак вельмі хацелася б, каб мы набылі і новых прыхільнікаў. Магчыма, тыя словы, якія выказаў на адрас газеты міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, стануць больш магутным агітатарам, чым проста "рэкламны ролік"...***

**Аляксандр САСНОЎСКІ, міністр культуры Рэспублікі Беларусь:**

# "СЕМ — ЛІЧБА МАГІЧНАЯ..."



— Сем гадоў — гэта, вядома, не юбілей. Але сем гадоў гэта той тэрмін, калі абсалютна ўпэўнена можна сказаць, ці адбылася газета, ці не. Я павінен адзначыць, што калі прыйшоў працаваць у Міністэрства культуры амаль тры гады таму, газета была, так бы мовіць, не надта выразная. Яна хутчэй нагадвала вялікую афішу, дзе паведамлялася: што, дзе і як адбылося. І, калі закрываў газету, у душы нічога не заставалася...

Але ў апошні час "Культура" набыла свой адметны твар, яе не зблытаеш з ніякім іншым выданнем. Адсюль атрымліваеш дакладныя звесткі аб вельмі насычаным культурным жыцці краіны (раней мы абмяркоўвалі пераважна тое, што праходзіла ў межах кальцавой дарогі вакол Мінска). Сёння мы маем інфармацыю не толькі аб тым, што адбываецца ў сталіцы, буйным культурным цэнтры нашай краіны, але і аб падзеях на перыферыі, у абласных гарадах, раённых цэнтрах. Мы даведваемся таксама і пра розныя сусветныя імпрэзы. І гэта не можа не ўсцешваць. Газета набыла сваё аблічча, свой выразны почырк, і самае галоўнае, што мяне радуе, тут ёсць роздум. Роздум крытычны пра лёс нашай культуры, пра лёс нашых творцаў. Газета ніколі не займае адназначную пазіцыю. Да мастацтва наогул адназначных адносінаў быць не можа, таму што адзін творца бачыць праблему так, а другі — інакш. І газета гэта ўлічвае, яна не з'яўляецца аўтарытарнай, яна не ставіць пячатку на тую альбо іншую з'яву, імкнецца разважаць пра гэтую з'яву і заклікае чытача разважаць разам з ёю. І мне як міністру культуры таксама вельмі цікава чытаць гэтую газету.

Упэўнены, што ў штотыднёвіка — вялікія перспектывы, творчы патэнцыял. Я думаю, што з дапамогай Міністэрства культуры мы ўмацуем яе матэрыяльна-тэхнічную базу, дарэчы, я павінен сказаць, што мы ўжо шмат чаго зрабілі. Мяркую, што асобныя нумары, прысвечаныя асабліва важным падзеям у культурным жыцці нашай краіны, павінны выходзіць у святочным афармленні. І мы абавязкова вырашым гэтае пытанне.

Будзем выкарыстоўваць газету і для афіцыйнай інфармацыі. Зараз мы дамовіліся, што "Культура" пачне пастаянна публікаваць спіс помнікаў культуры дзяржавы, якія вызначыла навуковая рада, а таксама нарматыўныя акты нашага міністэрства, іншыя дакументы, каб яны хутчэй даходзілі да людзей, якія імі цікавяцца і карыстаюцца.

Наогул, сем гадоў — гэта і нейкая магічная лічба. Яна заўсёды ва ўсім свеце лічылася шчаслівай, і думаю, што да свайго сямігоддзя газета прыйшла з добрымі вынікамі. Хацелася б у гэтым кантэксце падкрэсліць, што беларуская культура адкрыта для свету і, сутыкаючыся з іншымі культурамі, яна аддае і ў той жа час набывае.

Я жадаю ўсім супрацоўнікам газеты, яе рэдкалегіі і надалей гэтак жа аддана працаваць!

**На здымку:** дзяжурная брыгада "К", якая працавала над выпускам нумара.
**Удакладняем:** астатнія "культура"ўцы — былі ў гэты час на "баявых" заданнях.
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА** (ён — за кадрам).



**Наш індэкс:**
**63875 — індывідуальная падпіска;**
**63300 — ведамасная падпіска.**
**Падпісны кошт на першую палову 1999 года:**
***індывідуальная:***
**1 месяц — 30000 руб.**
**3 месяцы — 90000 руб.**
**6 месяцаў — 180000 руб.**
***ведамасная:***
**1 месяц — 40000 руб.**
**3 месяцы — 120000 руб.**
**6 месяцаў — 240000 руб.**

## КУР'ЁЗЫ СА ЗНАКАМІТАСЦЯМІ

Царкоўная рада галандскага мястэчка Арнгейм палічыла замахам на маральнасць учынак 29-гадовага англійскага скульптара Марка Куіна, які выставіў на адной з цэнтральных вуліц свой партрэт у натуральную велічыню, закатаны ў пластык. Мастак адлюстраваў сябе цалкам аголеным. А вось гарадскія ўлады, насупраць, падтрымалі Куіна і далі яму афіцыйны дазвол і надалей выстаўляць сваю аголеную копію. У матывіроўцы рашэння адзначалася, што нямала маладых і сталага ўзросту людзей будуць разглядаць гэты твор мастацтва і з усмешкай спыняцца каля яго. І гэту радасць не варта ў іх адбіраць...

* * *

Цяпер зоркі сусветнай велічыні дарма на пытанні не адказваюць, а патрабуюць за гэта грошы. Тая ж Ла Тоя Джэксан, малодшая сястра і суперніца Майкла, "прадае" сябе рэпарцёрам наступным чынам: адно іхняе пытанне — шэсць з паловай тысяч долараў.

* * *

Кіназорка Дэрыл Хана ў ложку з шыфонам пяшчотнага абрыкосавага колеру часта прымае Джона Кенэдзі-малодшага. Кажуць, што ў іхняй нью-ёркскай кватэры ўжо стаіць (на ўсялякі выпадак) і сімпатычны дзіцячы ложачак.

* * *

А вось Майкл Джэксан бавіць свой час у ложку, пабудаваным паводле апошняга слова тэхнікі ("крышталёвая труна Беласнежкі" коштам 250 тысяч долараў). У яго падаецца амаль чысты кісларод. Майкл кажа, што праз пяць хвілін ён ужо адчувае сябе нібыта нованароджаным.

* * *

Гурток аматараў, якім кіравалі Старыцкі і Лысенка, наладзіў у кіеўскім тэатры канцэрт, уключыўшы ў рэпертуар песні розных народаў.

Цэнзура дазволіла выконваць песні на розных мовах, акрамя ўкраінскай, бо, маўляў, такой мовы "не было, няма і быць не можа". Знайшлі выйсце — пераклалі ўкраінскія песні на французскую мову.

Але як толькі са сцэны прагучала па-французску вядомая ўкраінская песня "Дождж ык, дожджык", у тэатры ўзняўся такі лямант, што "ахоўнікі парадку" забаранілі і французскія песні.

* * *

Рэпутацыя Сары Фергюсан, нявернай жонкі герцага Ёркскага, апусцілася ў Брытаніі вельмі нізка. У сувязі з гэтым дырэктар музея васковых фігур у Блэкпуле Кен Спэнсер вырашыў прыбраць яе "скульптуру" з экспазіцыі. А вось дарагі воск будзе прыдатны толькі для вырабу звычайных свечак. Такім чынам Сара за свае грахі будзе проста "спалена".

* * *

Джозеф Эстрада сыграў ролю паліцэйскага ў больш за сотню фільмах. А потым (як артыст Рональд Рэйган) ён зрабіўся "дзяржаўнікам" — віцэ-прэзідэнтам Філіпін. Але і на гэтай пасадзе Эстраду цягне да былой прафесіі, і ён нярэдка кіруе аперацыямі па абясшкоджванні злачынцаў і нават сам удзельнічае ў іх, скарыстоўваючы зброю. А нядаўна Эстрада асабіста затрымаў групу злачынцаў з Ганконга, якія гандлявалі наркотыкамі.

* * *

Вядомы польскі піяніст Ігнацы Падарэўскі атрымаў аднойчы запрашэнне, у якім гаварылася:

"... Мая жонка выканае для вас уласныя кампазіцыі, дачка праспявае рамансы, а сын сыграе на скрыпцы. Пасля выступленняў, а дзевятай вечара, пачнецца банкет".

Падарэўскі ў адказ напісаў:

"Вялікі дзякуй! Запрашэнне прымаю. Буду роўна а дзесятай".

**Да друку падрыхтаваў**
**Іван ШПАДАРУК**


КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ,**
**Арсен ВАНІЦКІ,**
**Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар),
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**
(першы намеснік галоўнага рэдактара),
**Валерый ГЕДРОЙЦ,**
**Уладзімір ГІЛЕП,**
**Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,**
**Аляксей ДУДАРАЎ,**
**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ,**
**Вольга ІПАТАВА, Міхаіл ПТАШУК,**
**Алесь РАЗАНАЎ,**
**Віктар СКАРАБАГАТАЎ,**
**Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў —
**Надзея БУНЦЭВІЧ,**
**Жанна ВАСАНСКАЯ,**
**Барыс КРЭПАК,**
**Алесь ФІЛІПОВІЧ,**
**Валерый ШЫХАНЦОЎ**
Спецкарэспандэнты:
**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ,**
**Зміцер ВІШНЁЎ,**
**Таццяна КОМАНАВА,**
**Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.





Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3273.

Падпісана ў свет 15.10.98. у 16.30.

Замова 6091.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**